16 снежня 2016 | № 48 (513)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Руская. Ці ёсць такая нацыя?
Стар. 13

**4 ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА: ЗМЕНА ПАРАДЫГМЫ**

Будаўніцтва жылля перастала быць звышпрыбытковым бізнесам — сёння не атрымліваецца засяліць нават ужо пабудаваныя кватэры

**6 РУСКІЯ НЕМЦЫ: «КАЗАЦЬ ПРА КАНЕЦ ЕЎРОПЫ — ГЭТА ПЕРАБОР!»**

Аснова грамады рускіх немцаў у Берліне — нашчадкі сасланых Сталіным немцаў з Паволжа. Што думаюць «рускія» ў Германіі пра бежанцаў, расійскую прапаганду ды «згвалтаваную Лізу»

**7–10**



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**



# З абывацеляў — у грамадзянскую супольнасць

**Чарговы ўказ Лукашэнкі ўсхваляваў беларускае грамадства**



Сяргей ПУЛЬША

На нацыянальным прававым партале з'явіўся загадкавы ўказ Лукашэнкі ад 6 снежня №446 «Аб праекце міжнароднай дамовы».

Указ прадугледжвае пагадненне паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй аб удзеле падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння ў контртэрарыстычных аперацыях, якія праводзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь або Расійскай Федэрацыі.

Тэкст указа не прыводзіцца, але напісана, што КДБ нададзена права яго ўдакладніць і падпісаць. З-за гэтага сацыяльныя сеткі ўзарваліся меркаваннямі. Маўляў, гэты ўказ, па-першае, узаконіць дзейнасць на тэрыторыі Беларусі расійскіх спецслужбаў і спецпадраздзяленняў. То бок, у найгоршым выпадку, «зялёныя чалавечкі» ў Сінявокай будуць «у законе». Па-другое, дакумент, нібыта, дае падставы адпраўляць беларускіх вайскоўцаў у «гарачыя кропкі» Расіі, якіх у нашага суседа багата.

Ці ёсць падставы для такой занепакоенасці? Ёсць, а можа і няма, кажа вайсковы эксперт, кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў.

«Для таго, каб абмяркоўваць «зялёных чалавечкаў» альбо адпраўку беларускіх вайскоўцаў за мяжу, трэба бачыць тэкст гэтага пагаднення. Тэкст нам не паказалі. І, да таго ж, аналагічных пагадненняў Беларусь пакуль ні з кім не падпісвала», — адзначае Паротнікаў.

Таму ў сваіх меркаваннях Паротнікаў сыходзіць толькі з міжнароднай практыкі. А ў міжнароднай практыцы такія пагадненні падпісваюцца, каб рэагаваць на пагрозы, якія выходзяць за межы нацыянальнай юрысдыкцыі.

«Тады кіраўніцтва звяртаецца да партнёра, у якога ёсць магчымасць дапамагчы, і ў сціслы тэрмін прымаецца рашэнне пра адпраўку неабходных чалавечых і тэхнічных рэсурсаў, каб праблему вырашыць», — тлумачыць эксперт.

У адпраўцы сілаў спецаперацый за мяжу заўсёды ёсць пытанні. Найперш — хто імі будзе кіраваць? Якое заканадаўства прымяняецца пры ажыццяўленні спецаперацыі? Нясе ці не нясе адказнасць запрошаны бок за магчымую шкоду трэцім асобам, грамадзянам, маёмасці? Звычайна, менавіта гэтыя пытанні прапісваюцца ў такіх пагадненнях.

Чаго не бачыць у дакуменце эксперт, дык гэта пагрозы легалізацыі «зялёных чалавечкаў» у Беларусі. «У такіх дакументах ёсць базавы прынцып: замежныя вайсковыя падраздзяленні прыбываюць у краіну толькі тады, калі іх запрашаюць. І дзейнічаюць яны ў межах нацыянальнага заканадаўства прымаючага боку і пад кіраўніцтвам прымаючага боку. У свеце гэта працуе менавіта так», — катэгарычна кажа Паротнікаў.

Да таго ж, калі ў краіну ўводзяць «зялёных чалавечкаў», то ніхто ні ў каго пра іх статус не пытаецца. І, тым больш, не спрабуе заключыць нейкія пагадненні, якія б гэтых інтэрвентаў легалізавалі. Таму сам факт з'яўлення падобнага дакумента можна лічыць хоць нейкім плюсам.




Цікава, ці пабачым мы поўны тэкст гэтага пагаднення? Звычайна, калі дакументы падпісваюцца КДБ-МУС-ФСБ-ФСО і іншымі падобнымі структурамі, на іх ставіцца грыф «сакрэтна» альбо «для службовага карыстання».

Але ў дадзеным выпадку журналісты ўжо звярнуліся хаця б па каментар да ўказу ў адпаведныя органы. І, зважаючы на тое, што дакумент, хоць і тычыцца нацыянальнай (дакладней, міжнацыянальнай) бяспекі, але мае вялікую грамадскую значнасць, яго могуць і рассакрэціць.

Але сама сітуацыя дэманструе, як змянілася беларускае грамадства ў апошнія часы. Раней пра той указ ніхто б нічога не ведаў — ну, выдаў Аляксандр Рыгоравіч чарговую паперку, і што? Аднак зараз, асабліва пасля канфлікту ва Украіне, людзі, па-першае, значна больш увагі надаюць таму, з кім і як мы сябруем, якія адносіны выбудоўваем з суседзямі, і чым нам можа пагражаць неабачлівае сяброўства.

Па-другое, яны рэагуюць на магчымую небяспеку. Непрыманне і занепакоенасць з нагоды такіх дакументаў натуральнае. Шмат хто згадаў Афганістан, дзе беларусы ваявалі, па вялікім рахунку, ні за што. Шмат каго непакоіць агрэсіўная вайсковая палітыка Расіі. І шмат хто палохаецца, што зноў нашы грамадзяне паедуць у зоны канфлікту за чужыя інтарэсы.

Цікавасць з боку грамадства да такіх пытанняў сведчыць, што грамадства пакрысе, але ператвараецца ў грамадзянскую супольнасць. Бо адносіны «падпісаў паперку, і ўсё», — гэта адносіны абывацеляў. А вось калі людзі пачынаюць тую паперку абмяркоўваць, турбавацца, непакоіцца — гэта ўжо прыкмета нарастаючай грамадскай дзеі.

Так, зараз беларусы абмяркоўваюць гэтую праблему ў інтэрнэце. На пляцоўцы грамадскай думкі talks.by толькі за два дні тэма набрала каля 9.000 праглядаў. А вось калі яны з інтэрнэту выйдуць у рэальнае жыццё — гэта іншае пытанне. Але і такое можа здарыцца, калі моцна закране.

У 1968 годзе супраць уводу войскаў у Чэхаславакію на Красную плошчу выйшлі сем чалавек. Калі ўлада задумае адсылаць сваіх вайскоўцаў на чужую вайну, у Беларусі пратэстоўцаў будзе значна больш.

# «Некалядныя» пасланні праваабаронцаў

**Актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» накіравалі звароты да ўсіх 110-ці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з заклікам правесці парламенцкія слуханні па абмеркаванні магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне.**

Да кожнага звароту быў прыкладзены сумесны даклад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойствы на (не)законных падставах».

Каардынатар кампаніі Андрэй Палуда ў сваім звароце нагадвае парламентарыям: «5 лістапада 2016 года ў СІЗА №1 МУС ва ўмовах таемнасці былі прыведзеныя ў выкананне смяротныя прысуды ў дачыненні да грамадзян Івана Куляша, Сяргея Хмялеўскага і Генадзя Якавіцкага... а прысуд у дачыненні Сяргея Вострыкава, які ўжо ўступіў у законную сілу, можа быць прыведзены ў выкананне ў любы момант».

Андрэй Палуда звяртае ўвагу, што Камітэтам па правах чалавека ААН было прынята шэсць рашэнняў па індывідуальных зваротах грамадзян краіны, у якіх Камітэтам устаноўленае парушэнне Рэспублікай Беларусь права на жыццё, а нявыдача цел расстраляных для пахавання членам сям'і — жорсткім і бесчалавечным абыходжаннем у дачыненні да іх.

Праваабаронца просіць дэпутацкі корпус выступіць з ініцыятывай аб правядзенні парламенцкіх слуханняў з удзелам шырокага кола прадстаўнікоў грамадскасці, праваабарончай супольнасці і журналістаў па абмеркаванні магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў нашай краіне, як першага кроку да яе поўнай адмены.

**Паводле spring.org**

# Перспектывы беларускамоўнай адукацыі

**Па ініцыятыве «Маладых хрысціянскіх дэмакратаў» і дэпутата Алены Анісім адбыўся круглы стол на тэму «Перспектывы падтрымкі і развіцця беларускай мовы ў сістэме адукацыі».**

Усім прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, студэнты, педагогі, бацькі дзяцей, якія навучаюцца ў беларускамоўных школах і класах, якія распавялі пра свой досвед змагання. На мерапрыемства таксама былі запрошаныя прадстаўнікі дзяржаўных і мясцовых органаў улады, адказных за сістэму адукацыі. Іх прадстаўнікі зарэгістраваліся для ўдзелу, але ўсе раптам адмовіліся.

Падчас круглага стала былі абмеркаваныя крокі па паляпшэнні стану беларускамоўнай адукацыі. Па выніках быў складзены калектыўны зварот, пад якім плануецца пачаць збор подпісаў.

У прыватнасці, прапануецца:

- пры напісанні бацькамі заявы на прыём дзіцяці ва ўстанову адукацыі пісьмова прапаноўваць у форме заявы выбар мовы навучання;
- забяспечыць рэальнае раўнапраўе моваў, у тым ліку, ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, на ўсіх факультэтах і спецыялізацыях павінны быць створаныя беларускамоўныя плыні (групы);
- у кожным раённым цэнтры стварыць адну беларускамоўную гімназію як мінімум;
- павялічыць колькасць урокаў беларускай мовы ў сістэме школьнага навучання;
- у сістэме сярэдне-спецыяльнага навучання прадугледзець вывучэнне шэрагу дысцыплін на беларускай мове;
- стварыць універсітэт з беларускай мовай навучання як установы сучаснага ўзроўню для падрыхтоўкі спецыялістаў па прэстыжных і запатрабаваных у перспектыве накірунках дзейнасці;
- з мэтай заахвочвання выкладання розных дысцыплін на беларускай мове зрабіць надбаўку, у памеры 30% да акладу настаўнікаў і выкладчыкаў;
- прадметы, агульнагуманітарнага цыклу выкладаць на беларускай мове;
- распрацаваць заканадаўчы акт аб адукацыі з улікам досведу розных краін і патрэбамі сучаснага грамадства на беларускай мове.

«Мы не маем ілюзій, што заўтра ўсе будуць размаўляць па-беларуску. Але першыя крокі варта зрабіць ужо сёння. Беларуская мова павінна не раз'ядноўваць, а аб'ядноўваць: і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, і палітыкаў, і чыноўнікаў», — адзначыла ў каментар лідар МХД Марына Хоміч.

Таксама было ўзнятае пытанне недахопу кваліфікаваных кадраў для беларускамоўных школаў і класаў.

**Паводле bchd.info**

# Дзіўныя мроі Савета Еўропы

Генадзь КЕСНЕР

**Ствараецца ўражанне, што ў недалёкім часе нават пры выкананні смяротных выракаў афіцыйны Мінск можа апынуцца ва ўлонні еўрапейскіх структур.**

Савет Еўропы і Беларусь за апошнія гады «наладзілі не проста дыялог, але добрае і актыўнае супрацоўніцтва», заявіў дырэктар па палітычных пытаннях Савета Еўропы Аляксандр Гесаль, выступаючы 13 снежня ў Мінску на адкрыцці канферэнцыі па праблематыцы смяротнай кары.

Паводле слоў Гесаля, кіраўніцтва СЕ «з вялікай цікавасцю і ўвагай» сочыць за правядзеннем канферэнцыі ў Мінску. «Гэта сапраўды важнае для нас мерапрыемства. Савет Еўропы складаецца з 47 краінаў. Усе краіны Еўропы, за выключэннем Беларусі, уваходзяць у склад арганізацыі. Мы лічым, што з часам, у будучыні, і ваша краіна далучыцца да СЕ, які з'яўляецца вялікай еўрапейскай сям'ёй. А Беларусь — еўрапейская краіна. Нам здаецца, што яе месца, безумоўна, у шэрагах нашай арганізацыі», — адзначыў еўрапейскі дзеяч.

Ён заявіў, што пытанне смяротнага пакарання не павінна вырашацца на рэферэндуме: «Пытанні смяротнага пакарання павінны вырашацца ўладамі. Урэшце, парламент і прэзідэнт выбіраюцца ўсенародным галасаваннем, ім даецца частка суверэнітэту, які яны могуць і павінны выкарыстоўваць. Мы спадзяемся на хуткае ўвядзенне мараторыя ў Беларусі».

Спадзявацца не грэх. Пра тое, што пытанне адмены смяротнага пакарання ў Беларусі можа быць вырашанае без рэферэндуму, ужо шмат гадоў таму казаў і Канстытуцыйны суд нашай краіны. І нават некаторыя дэпутаты, у тым ліку і высокарангавыя, Палаты прадстаўнікоў.

Заклікі спыніць смяротнае пакаранне ў Беларусі, ці хаця б увесці мараторый на выкананне расстрэльных прысудаў, гучаць з вуснаў еўрапейскіх чыноўнікаў перманентна. Але гэтыя заклікі для беларускага кіраўніцтва, і асабліва для нязменнага правадыра, — што зайцу стоп-сігнал. Нават ва ўмовах, калі афіцыйны Мінск вельмі зацікаўлены ў наладжванні добрых стасункаў з Захадам ці хаця б у размарозцы гэтых дачыненняў, пытанне смяротнага пакарання для яго застаецца прынцыповым. Нездарма ў Пішчалаўскім замку (СІЗА № 1 МУС Рэспублікі Беларусь на вуліцы Валадарскага ў сталіцы) да пачатку бягучага года прагучалі ўжо чатыры смяротныя стрэлы (толькі ў лістападзе куляю ў патыліцу былі пакараныя тры чалавекі). Яшчэ адзін асуджаны чакае выканання смяротнага прысуду (а можа ўжо і не чакае). Гэта своеасаблівы знак і для Захаду: нічога вартага не прапаноўваеце (у плане грошай) — дык атрымайце.

Зноў гучаць спасылкі некаторых тутэйшых чыноўнікаў на «плебісцыт» 1996 года, калі, паводле агучаных старшынёй ЦВК Ярмошынай звестак, за захаванне расстрэлаў выказалася абсалютная большасць тых, хто ўзяў удзел у галасаванні. Хоць ад той падзеі прайшло 20 гадоў, выраслі новыя пакаленні беларусаў.

Ужо шматкроць казалася, што смяротнае пакаранне ў Беларусі — гэта выключна палітычнае пытанне, якое за адну хвіліну ўласнаручна можа вырашыць Лукашэнка. Але ён можа зрабіць гэта толькі ў выпадку, калі адчуе на сабе сапраўдны ціск з боку міжнароднай супольнасці (беларуская дэмакратычная грамадскасць ужо стамілася змагацца супраць смяротных выракаў, хоць і працягвае гэта рабіць) ва ўмовах нарастаючай варажнечы з усходняй суседкай. Для Мінска гэта пытанне чарговага палітычнага гандлю з Еўропаю, дзе смяротнае пакаранне не ўжываецца ўжо багата часу.

Але тут дадаюцца новыя абставіны. Усё больш гучыць галасоў пра вяртанне смяротнага пакарання ў Расіі, гаворка пра вяртанне найвышэйшай меры пакарання актыўна вядзецца і ў Турцыі, прэзідэнт якой Рэджэп Таіп Эрдаган заявіў, што не выключае такога развіцця падзеяў. Так што еўрапейская супольнасць вымушана цяпер яшчэ звяртаць увагу і на гэтыя дзве краіны, каб не дапусціць вяртання і там да цемрашальства.

Таму цяжка сказаць, ці адмовіцца найбліжэйшым часам ці ў сярэднетэрміновай перспектыве Лукашэнка і яго атачэнне ад расстрэлаў сваіх грамадзян. А лагодныя заявы еўрачыноўнікаў і прадстаўнікоў Савета Еўропы наконт істотнага паляпшэння стасункаў з афіцыйным Мінскам і нейкага там прагрэсу, пра сотні семінараў, што даюць нейкі плён, выглядаюць, прабачце, крыху езуіцкімі.

Хаця, хто яго ведае. Расія, умоўна кажучы, усё больш зацягвае вяроўку на шыі беларускага кіраўніцтва, таму чаму б ні прадаць уласнае жыццё цывілізаванаму свету ўзамен на тое, каб самому не забіраць жыцці іншых суайчыннікаў?

Гэта той гандаль, які не вымагае абсалютна ніякіх высілкаў. Толькі палітычнае рашэнне і толькі адзін подпіс пад чарговым дакументам, які, паводле шматгадовай тутэйшай практыкі, нават вышэй за законы. Толькі адзін подпіс...

# За смерць Ігара Барбашынскага адкажуць медыкі?

Зінаіда ЦІМОШАК

Галіна Шаравар, маці Ігара Барбашынскага, які загінуў у Жодзінскім следчым ізалятары, 13 снежня 2016 года атрымала паштовае паведамленне пра распачацце крымінальнай справы па факце неналежнага выканання прафесійных абавязкаў медыцынскімі работнікамі Жодзінскай папраўчай установы — турмы №8 і Жодзінскай гарадской бальніцы.

Адпаведная пастанова была прынята следчым камітэтам 7 снежня 2016 года.

Медыкі абвінавачваюцца па частцы 2 артыкула 162 Крымінальнага кодэксу — неналежнае выкананне медыцынскімі работнікамі прафесійных абавязкаў, якое прывяло па неасцярожнасці да смерці пацыента.

Больш падрабязна з матэрыяламі справы жанчына зможа азнаёміцца непасрэдна ў аддзеле Следчага камітэта горада Жодзіна.

Галіна Паўлаўна, якая ў чаканні адказу ад следчых ужо некалькі месяцаў жыве ў страшэнным напружанні, не зусім згодна з высновамі следчых.

— Я згодная з тым, што дактары не выканалі сваіх прафесійных абавязкаў, але не разумею такой фармулёўкі, як «смерць пацыента па неасцярожнасці» ў дачыненні да медыкаў-прафесіяналаў, — гаворыць маці. — Іх абавязак — лячыць пацыентаў, а не дапамагаць ім па неасцярожнасці адпраўляцца на той свет. У мяне шмат пытанняў да дактароў.

Дактары не паставілі ніякага дыягназу, але нешта калолі і нешта лячылі.

Як сведчаць дакументы, па выніках абследавання медыкі выставілі Ігару дыягназ — энцэфаліт неўдакладненай этыялогіі, і яго стан быў ацэнены як «сярэдняй цяжкасці». І вось у такім «сярэднім» стане 19 верасня ў 17.00 яго адправілі на выздараўленне ў турму, дзе каля 6 гадзін раніцы 20 верасня яго ўжо знайшлі мёртвым.

Па словах маці, яна кожны раз «упадае ў ступар», перачытваючы розныя жахлівыя падрабязнасці. І ёй вельмі хочацца, каб хтосьці адказаў на яе пытанні:

— Чаму пасля слоў слуцкага міліцыянта Ярашэвіча «Товарищ майор, поехали!» з такой лёгкасцю закруціўся гэты клубок смерці, які канчаткова дабылі жодзінскія кантралёры і медыкі? Чаму медыкі, калі бачылі, што сын памірае, не выклікалі хуткую? Хто даў ім такія ўказанні? — пытае маці. — Ён яшчэ не быў асуджаны, а ўжо перастаў быць чалавекам?

Таксама Галіну Шаравар насцярожыла адсутнасць згадкі пра 17 адмысловых цялесных пашкоджанняў у сына за некалькі дзён да смерці і рубцах на галаве.

— Чаму ані словам не згадваецца аб збіцці? Адкуль з'явіліся гематомы і сінякі, якія зафіксаваны судова-медычнай экспертызай? Ці гэта медыкі білі сына? Трэба самім вывучаць матэрыялы справы з дапамогай спецыялістаў. Спадзяюся на дапамогу праваабаронцаў, — падкрэсліла маці.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сеанс чорнай магіі з яе выкрыццём

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Шыла ў меху не схаваеш. Наколькі беларуская эканоміка — «шыла», нам звычайна не кажуць. Але спецыялістам патрэбная рэальная інфармацыя, каб прымаць адэкватныя рашэнні. А таму раз-пораз прарываюцца цікавыя лічбы ў выданнях, якія шараговы беларус не чытае.**

У чарговым нумары «Банкаўскага веснiку» экс-памочнік беларускага кіраўніка, доктар эканамічных навук і пасол у Кітаі Кірыл Руды раптам выдаў дзяржаўную таямніцу. Насуперак вясёлкавым заявам уладаў, паказчыкі прамых замежных інвестыцый дэманструюць іх адток з Беларусі. Гэтая тэндэнцыя пачалася ў мінулым годзе і працягвалася ў гэтым.

Аналізуючы скарачэнне прытоку замежных інвестыцый, Руды адзначае, што з 2015 года ў Беларусі стала больш закрывацца, чым адкрывацца, арганізацый з замежным капіталам. Пры гэтым колькасць арганізацый з замежнымі інвестыцыямі ў першым квартале 2016 года ў параўнанні з 2015 годам скарацілася ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, што кажа пра наяўнасць сістэмных прычын.

Беларусь традыцыйна цікавая даволі вузкаму колу інвестараў: у 2015 годзе 54,8% усіх прамых замежных інвестыцый прыйшло праз Расію і Кіпр — нягледзячы на тое, што нам усе вушы пражужжалі пра Кітай, Катар і Арабскія Эміраты. Прычым, як высветлілася, у Сінявокую укладаюцца адзінкі: за 2011–2015 гады на пяць найбуйнейшых замежных інвестараў (у тым ліку «Кронаспан», «Хайнекен», «Штадлер») прыйшлося 40% укладанняў замежнага капіталу ў статутныя фонды.

Ёсць у артыкуле Рудага і іншыя цікавыя лічбы. «Па выніках апытання 46 замежных арганізацый 33 з іх назвалі галоўным бар'ерам для інвеставання ў Беларусь падзенне плацежаздольнага попыту», — піша Руды. У 2015 годзе рэальныя даходы насельніцтва ўпалі на 5,9%, спажыванне — на 3,6%. Пагаршэнне ўмоў для інвеставання звязваецца і са скарачэннем вытворчасці працы, якая за 2015 год у доларавым эквіваленце ўпала амаль на траціну — на 28%!

Руды звяртае ўвагу і на рызыку скасавання інвестыцыйных пагадненняў. За 2009–2015 гады ў Беларусі было заключана 1844 інвестыцыйныя дамовы. З іх рэалізавана толькі траціна — 642 дамовы. Скасавана больш — 663. «Асноўнай прычынай скасавання стала невыкананне ўзятых інвестарам на сябе абавязацельстваў, якія апынуліся цяжкімі», — канстатуе Руды.

І, дарэчы, экс-памочнік кіраўніка Сінявокай кажа пра тое ж, пра што мы згадвалі літаральна ў пазамінулым нумары, прапануючы ацаніць бізнэс-клімат праз прызму «пасадак» бізнесоўцаў. Па інфармацыі Рудага, у 2014 годзе суды разглядалі 9 792 адміністрацыйныя справы па правапарушэннях у эканамічнай сферы. У 2015-м іх колькасць узрасла да 13 361! «Асноўны ўнёсак у сілавым ціску на беларускую эканоміку ў 2015 годзе зрабілі Міністэрства па падатках і зборах і Дзяржаўны мытны камітэт», — зазначае эксперт.

Мы ўжо ўсе плешы праелі, кажучы пра інвестыцыйны клімат у краіне. Бачна, Руды чытае і «Новы Час» таксама. Праўда, ён называе кепскі бізнес- і інвестклімат (увага!) «беларускімі культурнымі асаблівасцямі»!

«У Беларусі ёсць культурныя асаблівасці, якія ў доўгатэрміновым перыядзе становяцца бар'ерамі для замежных інвестыцый, — піша Руды. — Да найважнейшых з іх адносяцца арыентацыя на савецкае мінулае, на кароткатэрміновы вынік. У цэлым у Беларусі назіраецца спажывецкае стаўленне да замежнага інвестара».

«Па прычыне ўкаранёнай савецкай ментальнасці створаны ў часы СССР дзяржаўныя прадпрыемствы захоўваюцца, не змяняючы рэальнага ўласніка, нягледзячы нават на іх акцыяванне. Пры гэтым рызыка нацыяналізацыі разглядаецца як магчымасць аднавіць «народную» справядлівасць. Абмежаваная мабільнасць перш за ўсё старэйшых пакаленняў выцякае з такіх рысаў, як арыентацыя на савецкае мінулае, патэрналізм і калектывізм. Гэта вядзе да ментальнай ізаляцыі, правінцыйнасці, бар'ера да культурнай дыфузіі, фармаванню дзіўнага светапогляду фантазіявання і веры ў неверагодныя рэчы», — зазначае Руды.

**У 2015 годзе рэальныя даходы насельніцтва ўпалі на 5,9%, спажыванне — на 3,6%. Пагаршэнне ўмоў інвеставання звязваецца і з падзеннем вытворчасці працы**

Руды лічыць, што гэта ментальнасць беларусаў уплывае на інвестыцыйны клімат. Я ж скажу — наадварот. Гэта інвестыцыйны клімат уплывае на ментальнасць беларусаў. Пагадзіцеся, гэта не беларусы (дакладней, не ўсе беларусы) абцяжарваюць інвестыцыйныя праекты ўмовамі «захаваць сацыяльную інфраструктуру». Не ўсе беларусы некалькі разоў на год, як мантру, паўтараюць: «Прадпрыемствы прадаваць мы не дазволім!» Гэта не беларусы, «аднаўляючы народную справядлівасць», забралі «Спартак» у інвестара з ЗША. І не ўсе беларусы не дазваляюць «змяняць рэальнага ўласніка прадпрыемства, нягледзячы нават на акцыяванне».

Паляпшэнне інвестыцыйнага клімату залежыць, найперш, ад улады. І вырашаецца гэтая праблема некалькімі ўказамі. Але эканамічная самастойнасць непазбежна цягне за сабой і палітычную. Бо калі беларусы пазбавяцца «такіх рысаў, як арыентацыя на савецкае мінулае, патэрналізм і калектывізм», дзе апынецца сённяшняя ўлада?

Што ж з усім гэтым рабіць, і чаму Рудаму не знеслі галаву за такія крамольныя размовы? Ды таму, што наш пасол у Паднябеснай проста канстатуе факты. А вырашаць сітуацыю ён прапануе за кошт «прадуманай піяр-кампаніі, накіраванай на развіццё рацыянальных, а не эмацыйных адносінаў да эканамічнай рэчаіснасці».

Як кажуць у інтэрнэтах: «Бу-га-гашачкі!» Наша ўлада гэтым займаецца дзесяцігоддзямі! Замест рэфармавання эканомікі нам увесь час кажуць, што ў нас усё хораша і добра жыць у сінявокай. Стабільнасць і няма вайны. Піяр замест рэформаў.

Але, як казалася вышэй, шыла ў меху не схаваеш. І вось вам чарговы падарунак да Новага года. Да ягонага прыходу ў Беларусі ў чарговы раз падаражэе праезд у грамадскім транспарце. Павышэнне кошту праезду плануецца па ўсёй рэспубліцы на адну і тую ж суму — 5 капеек. Такім чынам, у абласных цэнтрах кошт праезду пасля павышэння складзе 45 капеек, у Мінску паездка ў наземным грамадскім транспарце будзе каштаваць 55 капеек, а ў метро — 60. Пры гэтым праязныя ў сталіцы, як чакаецца, падаражэюць на 5%.

І, заўважце, сёлета мы яшчэ не чулі фразы «замарозіць цэны, каб народ прыстойна адсвяткаваў Новы год».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Аляксей Янукевіч

**Старшыня Партыі БНФ не будзе хітраваць, каб працягнуць тэрмін сваіх паўнамоцтваў на пасадзе кіраўніка партыі. У 2017 годзе на чарговым з'ездзе партыі будзе абраны новы старшыня арганізацыі.**

Янукевіч адбыў дазволеныя паводле статута тэрміны на пасадзе. Зараз абмяркоўваюцца кандыдатуры яму на замену. У якасці асноўнага кандыдата на пасаду кіраўніка Партыі БНФ разглядаецца Рыгор Кастусёў — дзейны намеснік старшыні ПБНФ і кандыдат на выбарах прэзідэнта 2010 года.

Як перадае «Радыё Рацыя», партыйныя актывісты абмяркуюць імаверныя кандыдатуры на пасаду новага старшыні на пачатку наступнага года.

Сам Аляксей Янукевіч пасля з'езду збіраецца працягнуць сваю палітычную дзейнасць у шэрагах Партыі БНФ і працаваць на яе карысць у напрамках, якія вызначаць сябры арганізацыі.

## Уладзімір Няпомняшчых



**Гомельскі грамадскі актывіст, былы афіцэр міліцыі не змог спагнаць па адной капейцы (!) з трох амапаўцаў. Суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Марына Дамненка адхіліла яго пазоў да міліцыянтаў за ілжэсведчанні.**

Увераснi Няпомняшчых затрымалі на Прывакзальнай плошчы, калі ён выпраўляўся ў Мінск на акцыю пратэсту «Патрабуем справядлівых выбараў». Апазіцыянера, як заўсёды, абвінавацілі ў лаянцы і непадпарадкаванні праваахоўнікам, склалі два адміністрацыйныя пратаколы.

На падставе міліцэйскіх пратаколаў суд пакараў актывіста штрафам у памеры трох базавых велічыняў. Прычым суд Чыгуначнага раёна адмовіўся выклікаць амапаўцаў, маёра Сяргея Лук'янцава, прапаршчыкаў Ігара Ючко і Міхаіла Аленічава, якія затрымлівалі апазіцыянера. Адхіленае было і хадайніцтва аб выманні відэазапісу затрымання з камер відэаназірання, усталяваных на Прывакзальнай плошчы.

«Ведаючы нашы суды, я не разлічваў, што мой пазоў задаволяць. Мне важна было выцягнуць гэтых амапаўцаў на свет Божы, каб хоць у іх зварухнулася кропля сумлення, — кажа Няпомняшчых. — Можа, хоць праз суд яны задумаюцца над сваімі ўчынкамі, над сваім лёсам. Бо заўтра па камандзе іх саміх абвінавацяць у правапарушэннях ці злачынствах, і пры такіх ілжэсведках яны нічога нікому не дакажуць».



## Віталь Гуркоў

**Беларускія чыноўнікі ад спорту пазбавіліся ад аднаго ці не самых тытулаваных беларускіх спартоўцаў. Што не замінае яму выступаць і перамагаць.**

«Народны чэмпіён» і саліст гурта «Brutto» Віталь Гуркоў правёў прафесійны бой у Кітаі. На абвяшчэнне судзейскага выніку Гуркоў выйшаў з бел-чырвона-белым сцягам на плячах. Гэта першы за 20 гадоў выпадак, калі дзейны беларускі топ-спартовец публічна ўзняў нацыянальны сцяг падчас спаборніцтваў.

«Я заўжды марыў гэта зрабіць. Але калі быў у зборнай Беларусі, не мог на такое пайсці, каб у дачыненні да маіх сяброў не здарылася рэпрэсій. Пасля перамогі на Чэмпіянаце свету сёлета ў маі мне не толькі не вярнулі стаўку ў Мінспорту Беларусі, мяне выкраслілі з усіх магчымых спісаў. Нават са СДЮШАР-7. У майго трэнера зрэзалі зарплату. Таму сёння я магу не хвалявацца, што некага падстаўлю», — патлумачыў свой учынак Гуркоў.

Нагадаем, перад Чэмпіянатам свету–2016 Гуркова вымусілі адмовіцца ад стаўкі ў Мінспорту, і, адпаведна, «не знайшлі» грошай на яго адпраўку на чэмпіянат. Галоўны трэнер зборнай Міхаіл Сцяпанаў выказаў меркаванне, што Гуркоў, магчыма, «ужо не той» і яго музычная кар'ера ў «Brutto» замінае спартовай падрыхтоўцы.

У адказ беларусы ў межах праекту «Народны чэмпіён» за адзін дзень сабралі грошы для байца на паездку на Чэмпіянат свету. І там Гуркоў узяў золата. Здавалася б, чыноўнікі маглі прызнаць сваю памылку і аднавіць яго на стаўцы ў Мінспорту. Але ніхто і не паварушыўся.

# Жыллёвае будаўніцтва: змена парадыгмы



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**З-за радыкальнага падзення прыбыткаў насельніцтва будаўніцтва жылля перастала быць звышпрыбытковым бізнесам — сёння не атрымліваецца засяліць нават ужо пабудаваныя кватэры. Але праблема недахопу жылля нікуды не падзелася. Вось толькі цяпер вырашаць яе давядзецца зусім іншымі метадамі.**

Можна сказаць, што сёння мы праходзім свайго кшталту «вялікі пералом» на рынку жылой нерухомасці. Прыкладна да 2014-га жыллёвае будаўніцтва было вельмі ндрэнным бізнесам. І дзяржаўныя будтрэсты, і прыватныя будаўнічыя кампаніі, і ў Мінску, і ў невялікіх гарадах — шчасна зараблялі на так і не вырашанай савецкай уладай жыллёвай праблеме. Маржа ў гэтым бізнесе была насамрэч велізарнай — невыпадкова ж рэальны сабекошт будаўніцтва жылля і зараз застаецца таямніцай за сямю пячаткамі.

Аднак пасля снежня 2014-га ўсё змянілася. Прыбыткі насельніцтва абрынуліся (і працягваюць падаць), а тыя будаўнічыя праекты, якія былі завершаныя ў 2015–2016 гадах, аўтаматычна апынуліся неканкурэнтаздольнымі. Бо стартавалі яны яшчэ ў той час, калі прыбыткі раслі, і менавіта рост прыбыткаў патэнцыйных пакупнікоў закладваўся ў бізнес-планы дэвелапераў.

Выйшла ж наадварот. Аднак нават тыпавы праект патрабуе мінімум паўгода-год на праектаванне, столькі ж на ўзгадненне і вылучэнне зямлі, і паўтара-два гады на будаўніцтва. Як вынік, у дамы, якія здаваліся ў гэтым і мінулым гадах, былі закладзеныя выдаткі, якія не дазваляюць забудоўшчыкам істотна паменшыць кошт пабудаваных кватэр. Прадаваць пабудаваную нерухомасць сабе ў страту яны таксама не могуць.

Калі верыць словам віцэ-прэм'ера Анатоля Калініна, які прагучалі ў выступе перад парламентам, толькі ў Мінску сёння застаюцца непрададзенымі 5 тысяч кватэр у новабудоўлях (пра сітуацыю ў рэгіёнах ён дыпламатычна змаўчаў). А колькасць пабудаваных кватэр у сталіцы паменшылася за год як мінімум на 30%.

Адзіная прапанова, якую змог вылучыць у гэтых умовах урад, — пажаданне забудоўшчыкам арыентавацца на пакупніцкую здольнасць грамадзян і імкнуцца да ўзвядзення даступнага жылля.

«Урадам строга кантралюецца кошт будаўніцтва квадратнага метра жылля з выкарыстаннем дзяржпадтрымкі, пастаўлена задача забяспечыць увязку кошту квадратнага метра такога жылля з сярэднямесячным заробкам па краіне, — распавёў Анатоль Калінін. — Сёння дадзеныя суадносіны складаюць не нашмат больш за адзінку. Акрамя таго, забудоўшчыкам неабходна арыентавацца на пакупніцкую здольнасць грамадзян і імкнуцца да ўзвядзення даступнага для грамадзян жылля».

## Крыху лічбаў

Паводле дадзеных агенцтваў нерухомасці, сёння ў Мінску на рынку першаснага жылля сярэдні кошт квадратнага метра складае $1225. Што ўсё ж такі прыкметна больш, чым месячная зарплата нават у сталіцы. Пры гэтым дыяпазон коштаў такі: ад $990 за кватэры эканом-класа да $1670 за новабудоўлі класа прэстыж.

Пры гэтым Анатоль Калінін у тым жа выступе заявіў, што кошт будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай можа знізіцца да $280 за квадратны метр. «Я казаў пра кошт жылля з дзяржаўнай формай падтрымкі. Сёлета гэта каля 8,9 мільёна ў старых грошах — каля $340. Я бачу ўмовы, якія дазваляюць прапанаваць будаўніцтва з дзяржаўнай падтрымкай з больш камфортнымі ўмовамі — не больш за $280 у эквіваленце», — цытуе Калініна БелТА.

Нагадаю: яшчэ ў 2013 годзе Лукашэнка заяўляў, што кошт квадратнага метра жылля не павінен перавышаць сярэднямесячную зарплату па краіне. Гэта ж начальнік рэспублікі паўтарыў у 2014-м на нарадзе па праблемных пытаннях будаўнічай галіны. Праўда, у другім выпадку ён ужо меў на ўвазе кошт квадратнага метра жылля, які ўзводзіцца па дзяржзамове.

Між тым, былы бізнесмен і палітык Андрэй Клімаў прыводзіць уласныя разлікі — і не на пустым месцы, а як былы кіраўнік АТ «Андрэй Клімаў і Ко», якое ў 1990-х гадах займалася ў тым ліку і будаўніцтвам. Паводле яго меркавання, рэальны сабекошт панэльнага домабудавання — $80–100 за квадратны метр.

«Створана штучная манаполія, калі не сказаць — мафія, якая кантралюе вылучэнне зямельных участкаў і, натуральна, кантралюе кошт. $800, $900, тысяча за квадратны метр у панэльках — наркагандаль адпачывае! Кошт завышаны як мінімум у пяць разоў! Тлумачу: заводы знаходзяцца ў Мінску, будаўнічыя пляцоўкі — з гатовымі камунікацыямі, — падлічвае Клімаў. — Звярніце ўвагу: дамы будуюцца толькі там, дзе не трэба затрачваць дадатковыя сродкі, але кошт трымаецца. Усе ведаюць, што камунікацыі — гэта каля 50% ад кошту будаўніцтва. Прыбірайце 50% — максімум квадратны метр павінен каштаваць $300–400. Домабудаўнічыя прадпрыемствы нічога не плацяць за забруджванне навакольнага асяроддзя, таму што знаходзяцца на забеспячэнні Мінска, — зніжайце кошт будаўніцтва ў два разы. Ужо квадратны метр каштуе $200. Прыбярыце мафію і зрабіце канкурэнцыю — кошт квадратнага метра паменшыцца да $100, як гэта было ў 1990-х гадах. Кошт памяншаецца ў 7–8 разоў!»

Вядома, з такімі разлікамі можна спрачацца. Аднак факт застаецца: знізіць сабекошт будаўніцтва давядзецца. Вядома, маржа зваліцца, але галоўнае, што сам будаўнічы бізнес захаваецца.

## Варыянты рашэння

Ужо сёння зразумела, што актыўнага камерцыйнага жыллёвага будаўніцтва ў бліжэйшыя гады мы не ўбачым нават у сталіцы — адносна рэгіёнаў нават прагнозы рабіць не варта. Але, нават калі забудоўшчыкі пойдуць на прыкметнае паніжэнне сабекошту будаўніцтва (і ўласнага прыбытку), праблема падзення заробкаў насельніцтва нікуды не знікае, што б кіраўнік Беларусі ні казаў пра 500 долараў на нос у 2017 годзе. Значыць, вырашаць праблему даступнага жыллёвага будаўніцтва трэба нейкімі прынцыпова іншымі метадамі.

Першы з іх ужо прапанаваў урад: Анатоль Калінін распавёў, як ідзе праца над увядзеннем іпатэкі і сістэмы будаўнічых ашчаджэнняў. «Урадам з удзелам Нацбанка зацверджаны план захадаў да 2020 года па ўкараненні гэтых механізмаў фінансавання жыллёвага будаўніцтва. На завяршальнай стадыі ўзгаднення знаходзіцца канцэпцыя жыллёвых будаўнічых ашчаджэнняў, якая будзе пакладзеная ў аснову ствараемай у краіне мадэлі будаўнічых ашчаджэнняў», — распавёў віцэ-прэм'ер дэпутатам.

Ён прызнаў: найперш трэба выканаць тры ўмовы: давесці ўзровень інфляцыі да 5–7%, стаўкі па крэдытах у нацыянальнай валюце знізіць да 12–15%, а выплаты па іпатэцы не павінны перавышаць 35% ад чыстага гадавога прыбытку пазычальніка. «У адпаведнасці з праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016–2020 гады, да канца пяцігодкі ў краіне павінны быць створаныя такія ўмовы», — сказаў Калінін.

Аднак да агучаных паказчыкаў трэба яшчэ дажыць. Да таго ж адмыслоўцы будаўнічай галіны, неафіцыйна каментуючы віцэ-прэм'ера, кажуць: сістэма будаўнічых ашчаджэнняў можа дапамагчы толькі пры будаўніцтве жылля эканом-класа ў буйнапанэльным выкананні на зямельных участках без абцяжарванняў. Гэта значыць, без істотных выдаткаў на знос старых дамоў або пракладку інжынерных камунікацый.

Іншы варыянт, здавалася б, і ляжаў на паверхні, але на яго доўга не звярталі ўвагі. Цікава, што ў выніку гэта зрабілі не камерцыйныя дэвелаперы, а дзяржструктуры. На нарадзе ў Мінгарвыканкаме генддырэктар ДВА «Мінскбуд» Фёдар Рымашэўскі распавёў, што яго адмыслоўцы вывучылі досвед Вільні па перапрафіляванні і рэканструкцыі пустуючых будынкаў прамысловага прызначэння пад жылыя і офісныя памяшканні ў стылі лофт. І на падставе досведу суседзяў распрацавалі для Мінска ўласныя планы перапрафілявання невыкарыстоўваемых прамысловых будынкаў пад адпаведныя кватэры і офісы.

«Пры рэканструкцыі ў стылі лофт памяшканне вызваляецца ад старога абсталявання, усталёўваюцца перагародкі, робіцца разводка мясцовых камунікацый, аздабленне месцаў агульнага карыстання, абнаўляецца фасад, — патлумачыў Рымашэўскі. — Кватэры і офісы здаюцца, як правіла, без аздаблення. Чыставое аздабленне магчыма па індывідуальных пажаданнях заказчыка... У Мінску ўжо вывучаныя пустуючыя вытворчыя плошчы ААТ «Гарызонт» у межах праспекта Машэрава — вуліцы Куйбышава — вуліцы Кісялёва — вуліцы Чычэрына. Гэтыя будынкі аналагічныя агледжаным у Вільні. «Гарызонт» гатовы пачаць працэс перапрафілявання гэтага квартала, а «Мінскбуд» — ажыццявіць поўны комплекс будаўніча-мантажных работ. На сёння маюцца перадпраектныя прапрацоўкі. Усю дваровую тэрыторыю плануецца вызваліць для наступнай забудовы, і ў перапрафіляваных вытворчых будынках размясціць жылыя, офісныя і адміністрацыйныя памяшканні. Прапрацаваныя варыянты інтэр'ераў кватэр у стылі лофт».

Папярэдні разлік адносна пляцоўкі «Гарызонту» паказаў, што сабекошт з усімі выдаткамі, у тым ліку вызваленнем дваровай тэрыторыі, складзе $600 за 1 квадратны метр. І гэта самы цэнтр горада. У далейшым, калі тэхналогія будзе адпрацаваная, сабекошт жылля ў «завадскіх» будынках можа знізіцца яшчэ прыкладна на трэціну.



Мікола ДЗЯДОК

**Заўважце, колькі месца ў прамовах Лукашэнкі займае рыторыка інавацыйнасці, аднаўлення і «актыўнага развіцця». Здаецца, уся інавацыйнасць засяродзілася ў сферы пераследу нязгодных. Там і творчая думка, і асабліва тэхнічныя інавацыі выкарыстоўваюцца напоўніцу.**



# Інавацыйнасць у рэпрэсіях: «Платформа»

**Супрацоўнікі КДБ — далёка не дубаломы, якія імкнуцца знішчыць на корані любую грамадскую ці праваабарончую актыўнасць**

Памятаеце 22 жніўня 2015 года загадам Лукашэнкі з турмы выйшлі шасцёра. Гэты жэст меў стацца паваротным момантам у наладжванні супрацоўніцтва, перш за ўсё фінансавага, з ЕС і перыяду чарговай палітычнай адлігі. Да яе прыкметаў дадалося значнае змяншэнне колькасці арыштаў за вулічныя пратэсты. Усё гэта ў беларускім палітычным лексіконе завецца «лібералізацыяй».

Аднак рэжым, які праводзіць такую палітыку, трапляе ў вельмі складанае становішча. Як і пераважная большасць дыктатур, ён трымаецца на палітычных рэпрэсіях і страху насельніцтва перад удзелам у палітычных пратэстах, на масавай дэпалітызацыі народу. Практыка развінчвання гаек, хай і вымушаная, прыводзіць да змяншэння страху, што, у сваю чаргу, спрычыняецца да павышэння палітычнай актыўнасці і стварае патэнцыяльную небяспеку для сістэмы, асабліва ва ўмовах перманентнага эканамічнага крызісу, калі падспудная, пасіўная незадаволенасць уладай шырока распаўсюджаная.

Але і не раскручваць гайкі таксама нельга, бо тады можна будзе забыцца на фінансавую падтрымку і якое-ніякое прызнанне Еўропы, што ва ўмовах, калі Расія ўжо не выдае шчодрыя крэдыты, а эканамічны крызіс пагаршаецца, зноў жа, вядзе да нестабільнасці сістэмы.

Трапіўшы ў такі «відэлец», улада мусіць манеўраваць, ісці на кампрамісы і хітрыць. Самы просты і відавочны шлях тут — імітаваць перамены і лібералізацыю, каб пусціць пыл у вочы «заходнім партнёрам» — бо тыя, не ведаючы спецыфікі і маючы даволі абмежаваны доступ да інфармацыі, даволі лёгка ўводзяцца ў зман. А ў імітацыях і падманах «наіўных еўрапейцаў» нашай уладзе, бадай, няма роўных.

Вось і даводзіцца сілавым структурам весці ранейшую працу: спыняць іншадумства, нейтралізоўваць найбольш актыўных палітычных актывістаў — але новымі метадамі. Тымі, якія не дазволілі б замежным полісмейкерам казаць пра рост рэпрэсій і негатыўныя тэндэнцыі. І вось тут настае час тых самых інавацый, якія так старана і творча распрацоўваюцца ў нетрах КДБ.

Паступовае іх прымяненне пачалося яшчэ ў 2014 годзе, з пачаткам спраў праваабаронцаў Бандарэнкі і Жамчужнага.

У справе Бандарэнкі аб «злосным хуліганстве» фігуруюць тры эпізоды. У адным з іх ён пабіўся на вуліцы з чалавекам, які яго абразіў, у двух другіх пабіўся з суседкай у пад'ездзе, а таксама штурхнуў яе і ўдарыў нагой у будынку РУУС.





Ад пачатку трэба адзначыць: «Платформа» доўгі час была сапраўдным бяльмом на воку спецслужбаў. У краіне з адным з самых высокіх рэйтынгаў сядзельцаў на душу насельніцтва, дзе папраўчыя ўстановы з'яўляюцца цалкам закрытымі і, акрамя таго, выконваюць ледзь не ключавую функцыю ў справе ўтрымання палітычнай стабільнасці, такая арганізацыя стварае рэальную небяспеку. Тым больш, што зэкі — як сённяшнія, так і былыя, — актыўна звярталіся ў яе па дапамогу. А ўзначальваў «Платформу» чалавек, які сам сядзеў у беларускай турме і, такім чынам, ведае ўсе «ўваходы і выхады» яе карнага механізму. Ужо і пасля выхаду Бандарэнку неаднаразова каралі за праваабарончую дзейнасць, саджалі на «суткі».

І вось, цягам усяго 50 дзён, паміж 5 лютага і 27 сакавіка 2014 года, з ім здараецца адразу тры эпізоды. У першым да Андрэя падыходзіць на вуліцы незнаёмец, просіць цыгарэту і раптам пачынае абражаць. Дарэчы, «пацярпелы» — Артур Яворскі — сам быў раней судзімы. А раней судзімыя крымінальнікі — адзін з самых частых тыпаў людзей, што падпрацоўваюць выкананнем бруднай працы для КДБ. Заява «пацярпелага» ў міліцыю — крымінальная справа.

Два другіх эпізоды звязаныя з суседкамі Бандарэнкі. Ён, нібыта, пабіўся з дзвюма з іх у пад'ездзе (пры гэтым адна ўкусіла яго за палец), а потым яшчэ і ўдарыў адну з іх у будынку РУУС, куды іх даставілі для разбіральніцтва.

Ні ў адной з «ахвяр» не было зарэгістравана хоць якіх-небудзь бачных пашкоджанняў і парушэнняў здароўя. Аднак у выніку Бандарэнка атрымаў… 3 гады турэмнага зняволення. Для параўнання, такія тэрміны звычайна даюць рабаўнікам-рэцыдывістам, злодзеям, якія трапляюцца на буйным крадзяжы ўжо не ў першы раз, альбо тым, хто ў вулічнай бойцы моцна збіў ахвяру. Тут жа — рэальны тэрмін за дзеянні, якія ледзь цягнуць нават на адміністрацыйную адказнасць па артыкуле «дробнае хуліганства».

Аб зрэжысараванасці гэтых сітуацый кажа, па-першае, тое, што ўсе яны адбыліся ў кароткі прамежак часу, літаральна адна за адной. Па-другое, напасткі раней судзімага Артура Яворскага, які адштурхнуў Бандарэнка са словамі: «Дай сам запалю, я не ведаю, што ты рабіў гэтымі рукамі», відавочна былі скіраваныя на тое, каб абразіць яго згодна з нормамі зэкаўскай культуры. Але адкуль выпадковы мінак мог ведаць, што Бандарэнка сядзеў? Па-трэцяе, сам за сябе кажа непрапарцыянальны турэмны тэрмін і тое, як зараз прэсуюць Андрэя ў турме. І па-чацвёртае, нават на інтуітыўным узроўні не верыцца, што ў Беларусі з праваабаронцамі і палітычна актыўнымі людзьмі могуць здарацца «выпадковасці» такога кшталту — не тая гэта катэгорыя людзей.

Але і гэта яшчэ не ўсё. У жніўні 2014-га года, праз 4 месяцы пасля затрымання Бандарэнкі, затрымліваюць другога заснавальніка «Платформы» — Міхаіла Жамчужнага. Яго справа пакрытая яшчэ большым змрокам. Цягам 2013–2014 гадоў ён знаходзіўся ў аператыўнай распрацоўцы УКДБ Віцебскай вобласці. Згодна з версіяй следства, Жамчужны на працягу гэтага часу атрымліваў у дзяжурнага медыцынскага выцвярэзніка УУС Віцебскага аблвыканкама службовыя дакументы: звесткі пра заведзеныя крымінальныя справы ў дачыненні да службовых асоб, зводкі пра здарэнні з удзелам супрацоўнікаў праваахоўных органаў і гэтак далей. Жамчужны, нібыта, атрымліваў іх для сябе, бо лічыў, што яны маюць грамадскі інтарэс і могуць дапамагчы ў праваабарончай дзейнасці.

Але, як кажуць праваабаронцы, уся гэтая аператыўная распрацоўка была нічым іншым, як правакацыямі. КДБ на працягу двух гадоў наўмысна не спыняла іх, і нават падштурхоўвала, каб у выніку «навесіць» на Жамчужнага як мага больш артыкулаў. І гэта атрымалася: у суд справа пайшла ажно з трыма артыкуламі: часткі 1, 2 артыкула 376 — падбухторванне да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу, частка 1 артыкула 375 — незаконнае набыццё і збыт спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, часткі 1, 2 артыкулу 431 — дача хабару і дача хабару паўторна.

Сам Міхаіл у сваіх лістах кажа, што яго пасадка ад пачатку да канца інспіраваная аператыўнікамі КДБ, і не спыняе спробы абскардзіць прысуд. А прысуд, вынесены між тым за закрытымі дзвярыма (цікава, што хаваць следству, калі б яно было ўпэўненае ў сваёй праваце?), склаў у выніку 6,5 гадоў пазбаўлення волі.

Што ж такое зрабіў 61-гадовы навуковец, што дзяржаве стала неабходна адправіць яго ў турму на шэсць з паловай гадоў, прытым, заўважым — ужо ў другі раз? (У 2007-м годзе яго асудзілі, зноў жа, праз старанні КДБ, на 5 гадоў пазбаўлення волі па артыкуле 210 КК «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі»).

Адказ на гэта можна атрымаць, паглядзеўшы на далейшы лёс «Платформы».

Пасля арышту Бандарэнка і Жамчужнага ў ёй кіруе Алена Красоўская-Каспяровіч. Ужо праз 2 месяцы пасля «абезгалоўлівання» арганізацыі Дэпартамент выканання пакаранняў МУС дае ёй доступ ва ўсе ўстановы пенітэнцыярнай сістэмы — небывалы і амаль фантастычны крок, прэцэдэнт, які не здараўся ў Беларусі дзесяцігоддзямі!

І вось, аб'ездзіўшы шэраг папраўчых устаноў (пры тым якраз у перыяд, калі там сядзелі шэраг прызнаных Захадам палітвязняў), Красоўская-Каспяровіч выступае з заявай, у якой кажа, што ўмовы ў турмах сталі нашмат лепшымі, «у калоніях зрабілі еўрарамонт», што многія паведамленні зэкаў аб тым, што з іх здзекуюцца, «аказваюцца няпраўдай», а «палітвязняў ніхто не прэсуе… калі ты трапіў туды за нейкае дзеянне, то ўжо не ный, што называецца». Цікавая дэталь: праехаўшыся па калоніях Беларусі, Каспяровіч сустрэлася і грунтоўна паразмаўляла са злодзеем у законе, крымінальным аўтарытэтам «Галеем», але не знайшла час пабачыцца ні з адным палітвязнем.

Вядома, усё гэта выклікала шквал абурэння і абвінавачанняў на адрас «праваабаронцы», перш за ўсё, ад родных і сяброў палітвязняў.

У чэрвені 2015-га, як рэакцыя на дадзеныя заявы Каспяровіч, на адрас «Платформы» накіроўваецца адкрыты ліст, падпісаны 55-ю праваабаронцамі, грамадскімі дзеячамі, былымі палітвязнямі і іх роднымі, у якім яны папрасілі прадставіць грамадскасці вынікі іх маніторынгу.

Адказ кіраўніцы «Платформы» (у інтэрв'ю «Радыё Свабода») быў наступны:

«Увогуле, мы не лічым, што ад нас нехта можа чагосьці патрабаваць. Па-другое, мы не лічым, што гэтыя 55 — прадстаўнікі нейкай грамадзянскай супольнасці. Гэта нейкая незразумелая для нас група таварышаў, большасць імёнаў для нас увогуле незнаёмыя. І мы нават не імкнёмся іх ведаць».

Ну а апошнім часам Алена Красоўская-Каспяровіч адзначылася тым, што шчыра і адкрыта выказалася ў эфіры tut.by за захаванне смяротнага пакарання. Прытым зроблена гэта было падчас тыдню супраць смяротнага пакарання.

Агульная карціна мне бачыцца такой: супрацоўнікі КДБ — далёка не дубаломы, якія імкнуцца знішчыць на корані любую грамадскую ці праваабарончую актыўнасць. Не, яны разумеюць, што такая актыўнасць — фармальная ці не — заўсёды будзе. І таму іх мэта — не знішчыць, а паставіць пад кантроль. Менавіта з гэтай мэтай была разыграная ўся «шматхадовачка» з раптоўнай пасадкай двух кіраўнікоў «Платформы» (ды яшчэ такой пасадкай, пасля якой іх будзе як мага цяжэй прызнаць палітвязнямі) і ўзыходам на іх месца чалавека, які будзе казаць як у Беларусі, так і за яе межамі якраз тое, што патрэбна ўладам, — узамен на пэўныя «плюшкі», кшталту магчымасці спакойна існаваць і вольнага доступу да пенітэнцыярных устаноў.

Як бачым, рэпрэсіўны апарат засвойвае новыя метады забеспячэння стабільнасці рэжыму, і гэта дае плён. Бандарэнку палітвязнем не прызналі нават беларускія праваабаронцы, а замежныя дыпламаты, нягледзячы на прызнанне палітвязнем Жамчужнага, не спяшаюцца патрабаваць ягонага вызвалення.

**Працяг будзе**



**Пасля 2014 года ў нас назіраецца пэўны раскол. Нехта за «крымнаш», нехта — супраць. Шмат хто глядзіць расійскае тэлебачанне, а пасля пераказвае адно аднаму. Прыходзяць і распавядаюць, як страшна жыць у Германіі. Хоць самі тут жывуць!**

# Рускія немцы: «Казаць пра канец Еўропы — гэта перабор!»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Што думаюць «рускія» ў Германіі пра бежанцаў, расійскую прапаганду ды «згвалтаваную Лізу».**

Аснова грамады рускіх немцаў у Берліне — нашчадкі сасланых Сталіным немцаў з Паволжа. У 1990-я гады Германія дазволіла ім вярнуцца на сваю тэрыторыю і атрымаць грамадзянства. Часцяком гэта ўжо людзі з рускімі прозвішчамі і савецкім мінулым, якім даводзілася адаптоўвацца з нуля. Сярод іх — журналіст **Аляксандр Райзер.**

З ім давялося сустрэцца на офісе арганізацыі «Vision e.V.» у берлінскім раёне Марцан. Гэты раён лічыцца не самым заможным. Побач інтэрнаты для бежанцаў, а мясцовыя галасуюць за правых радыкалаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі». На 250 000 жыхароў раёну (памер сярэдняга горада) прыпадае 30 000 рускамоўных і 1 500 в'етнамцаў. Знешне — звычайны «спальнік», якіх і ў Мінску хапае.

Аляксандр пагадзіўся падзяліцца сваімі меркаваннямі наконт праблемы бежанцаў, адаптацыі выхадцаў з Саюзу ды расійскай прапаганды, якая трапляе нават сюды.

## На такой мове не гаворацы ўжо гадоў 250...

Я вырас у Сібіры ў вёсцы, якую складалі сасланыя з Паволжа немцы. Да сямі гадоў размаўляў толькі па-нямецку. Калі прыехаў сюды ў 1990-я, мяне ніхто не разумеў. Аказалася, што такой мовай тут не гавораць ужо



Аляксандр Райзер

гадоў 250, гэта дыялект, які ўжо даўно па-за ўжыткам. Давялося перавучвацца.

## Давесці, што мы «нармальныя людзі»

Да нас на пачатку вельмі насцярожана ставіліся, асабліва на тэрыторыі былой ГДР. Маўляў, «толькі пазбавіліся ад рускіх — і вось яны зноў...» Газеты пісалі пра «рускую мафію», якая крадзе машыны і гоніць на ўсход і г.д. Мы стварылі Форум перасяленцаў, куды запрашалі палітыкаў, журналістаў, грамадскіх актывістаў. Трэба было давесці ўсім, што мы «нармальныя людзі». Так і стварылі сваю арганізацыю.

## «Глядзіце, тут лясы ёсць!»

Другі этап — гэта распавесці самім перасяленцам з былога СССР пра Германію. Аказвалася часам, што некаторыя гадамі жылі тут і ніколі не выязджалі з Берліну. Таму арганізоўвалі экскурсіі ў розных напрамках. Некаторыя вялікія вочы рабілі: «Глядзіце, тут лясы ёсць!» Я пытаюся: «А ты што думаў?» «А я думаў, што прамысловая зона да самага мора...» Такія ўражанні былі.

## Ніводнае рашэнне без нас не прымаецца

Галоўнымі вынікамі шматгадовай працы стала безумоўная павага да рускамоўных ды той момант, што ніводнае рашэнне наконт нас не прымаецца без нашага ўдзелу. Зараз мы маем нават сваіх людзей у партыях — СДПГ, ХДС, напрыклад.

## Хто хоча — той працуе

Шмат хто з нашых заняты ў фірмах па сацыяльным доглядзе за састарэлымі. Дзяржава наймае такую фірму, плаціць грошы, а супрацоўнікі даглядаюць старых. Бываюць і злоўжыванні: дапісваюць, прыкладам, «мёртвыя душы»... Руская, што тут скажаш... Наогул жа, калі нехта прыязджае, то спачатку ідзе шасцімесячны курс мовы, пасля — навучанне праз біржу працы, пасля ўжо самастойнае працаўладкаванне. Хто хоча — той працуе.

## Алкаголь, «Адзідас» і «Крым наш!»

Ёсць і тыя, хто нічога рабіць не хоча. Сядзяць каля кіёскаў у касцюмах «Адзідас» ды п'юць разам з в'етнамцамі ды мясцовай алкашнёй. Дзяржава часам занадта гуманная да іх. Бывае, чалавек па 15–20 гадоў сядзіць на сацыяльнай дапамозе, нават не ведаючы мовы! Гэта паразітызм. Яны акурат, не ведаючы нямецкай, глядзяць НТВ, скандуюць: «Крым наш!». Дык едзьце, кажу. Не, ні за што...



На офісе рускай грамады

## Пенсіі — боль мігрантаў з СССР

Ці не галоўная праблема — гэта пенсіі. У большасці мігрантаў па мясцовых мерках малы стаж. У выніку, 60% мігрантаў будзе жыць на сацыяльную дапамогу. Гарантаваны дзяржавай пражытачны мінімум тут складае 380 еўра, але па мерках Германіі гэта не так і шмат.

## Нічога ж не змянілася, але страх з'явіўся

Пасля 2014 года ў нас назіраецца пэўны раскол. Нехта за «крымнаш», нехта — супраць. Шмат хто глядзіць расійскае тэлебачанне, а пасля пераказвае адно аднаму. Прыходзяць да мяне, напрыклад, і распавядаюць, як страшна жыць у Германіі. Хоць самі тут жывуць! Нічога ж не змянілася, але страх з'явіўся. Гэта сіла расійскага тэлебачання... І вось як хадзіў па начах, так і хаджу — не баюся, хоць побач ёсць інтэрнаты з бежанцамі.

## Люблю Расію

Вельмі люблю Расію. Мяне пытаюць часам: «Што любіш больш — Расію ці Германію?» Ну чаму я нешта адно маю любіць, а іншае ненавідзець? Ёсць, канешне, артадоксы і сярод нас, але такіх няшмат.

## Ганарыцца сваёй краінай — няёмка?..

Мы прывыклі ганарыцца сваёй краінай. А тут чамусьці гэта лічыцца няёмкім. Маўляў, гэта нацыяналізм, перажытак мінулага. Мы курсы рускай мовы ладзім, асабліва для дзетак. Лічым гэта важным. Якой бы ні была палітычная сітуацыя, але сваю мову дзеці павінны ведаць.

## «Астапы бэндэры»

Ёсць у нас і свае «астапы бэндэры». Напрыклад, нейкая «Партыя расійскага адзінства». У рэальнасці гэта 20–30 чалавек, якія вераць у тэорыю змовы і сусветную закулісу. Але калі нехта з іх едзе ў Крым, дык яго там з аркестрам сустракаюць, экспертам выстаўляюць, а ён кажа: «Пяцьсот тысяч расійскіх немцаў хочуць пераехаць у Крым!» Мы тут за галаву бярэмся... Хто гэта? Яго ж тут ніхто не ведае!

## Ліза — цнатлівая!

Калі з'явілася інфармацыя пра «згвалтаваную Лізу», якую падхапіла расійскае тэлебачанне, мы вырашылі ўсё праверыць. Тая гісторыя, дзе бежанцы, маўляў, каталі ў машыне расійскае дзяўчо і гвалцілі суткі ці болей, памятаеце? Дык вось, знайшлі бацькоў, юрыстаў, нават бацюшку для псіхалагічнай дапамогі. А ў выніку экспертыза паказвае, што дзяўчынка наогул цнатлівая! А тую ноч, пра якую ўсе крычалі, правяла ў сваіх знаёмых.

## Праблемы з бежанцамі будуць

Праблемы з бежанцамі з Поўдня будуць, безумоўна. Ведаем гэта па сваім досведзе. Мову не вучаць, расчароўваюцца, а потым з'яўляецца злосць і зайздрасць да немцаў... Дык нашы хоць 10 класаў школы маюць гарантавана, а іракцы ды афганцы? Чатыры класы?.. Рынак нізкакваліфікаванай працы тут вузкі, таму будуць канфлікты.

## «А мы ў Казахстане бараноў стрыглі так...»

У гэтым раёне пяць інтэрнатаў для бежанцаў: Сірыя, Афганістан, Дагестан, Чачня... Там, дарэчы, у персанале і нашы працуюць. Дык мы адмыслова мерапрыемствы ладзім, каб страх пераадольваць, водзім сваіх туды гарбаты папіць, за сталом пасядзець. Спачатку баяцца, а праз паўгадзіны ўжо распавядаюць адно аднаму, як правільна кароў пасвіць альбо: «А мы ў Казахстане бараноў стрыглі так...» (смяецца).

## Мільён бежанцаў — гэта зашмат!

Не ўсе ж бежанцы тэрарысты і ісламісты. Я не кажу пры гэтым, што праблемы няма. На маю думку, мільён бежанцаў для Нямеччыны — гэта зашмат! І мы крытыкуем урад за гэта. Але казаць пра канец хрысціянскага свету і Еўропы, як гэта часам гучыць па расійскіх каналах, гэта ўжо перабор!

Беларусь Эканамічная

Выпуск №7 (снежань)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by





# Рэформа ЖКГ на фоне крызісу

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Кожны год з прыходам зімы і пачаткам ацяпляльнага сезону на першы план выходзіць праблема аплаты камунальных паслуг. У апошнія гады яна становіцца ўсё больш вострай, улічваючы паступовы пераход на максімальна магчымае пакрыццё камунальных выдаткаў насельніцтвам.**



Ужо абвешчана пра чарговае павышэнне камунальных тарыфаў са студзеня 2017 года. У сувязі з чым варта разабрацца, што ж у выніку прынясе беларусам гэта няспешная рэформа. Пачнём з негатыўных наступстваў.

## Наступства першае — малазабяспечаныя апынуцца за мяжой беднасці

Жыллёва-камунальныя паслугі можна параўнаць з прадуктамі першай неабходнасці. Невыпадкова доля выдаткаў на ЖКГ у розных слаёў насельніцтва супадае з выдаткамі на набыццё хлеба і хлебабулачных вырабаў. Як вядома, рост коштаў на прадукты першай неабходнасці мацней за ўсё закранае малазабяспечанае насельніцтва.

Паводле дадзеных за 2015 год, выдаткі на жыллёва-камунальныя паслугі ў сукупных выдатках малазабяспечаных хатніх гаспадарак Рэспублікі Беларусь складалі 11,1%. Гэта амаль у два разы больш, чым у сярэднім па краіне. Такія сем'і на камунальныя плацяжы выдаткоўвалі прыкладна столькі, колькі на набыццё ўсіх нехарчовых тавараў разам узятых.

Павелічэнне ўдзельнай вагі камунальных плацяжоў у агульнай суме выдаткаў беларускіх хатніх гаспадарак назіраецца з 2012 года. У гэтым годзе тэндэнцыя працягнулася, і па выніках 9 месяцаў камунальныя выдаткі перавысілі 7%. Улічваючы ацяпляльны сезон, можна напэўна сцвярджаць, што ў 2016 годзе будзе адзначана найбольшая ўдзельная вага камунальных плацяжоў у сукупных выдатках хатніх гаспадарак за апошнія сем гадоў.



## Наступства другое — пераход на самаакупнасць ставіць пад удар гаспадаркі са зношанай матэрыяльна-тэхнічнай базай

Правядзенне падобных рэформаў вылучае асаблівыя патрабаванні да стану матэрыяльна-тэхнічнай базы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Гэта важна для мінімізацыі страт, не звязаных з канчатковым спажываннем паслуг.

Камунальная інфраструктура кожнага раёна, жылога квартала мае розны ўзровень зносу. Ад гэтага залежыць, напрыклад, верагоднасць прарыву цеплатрас, водаправодаў, што, у канчатковым рахунку, адбіваецца на агульным сабекошце аказання жыллёва-камунальных паслуг. На сённяшні дзень выдаткі, не звязаныя з канчатковым спажываннем, кампенсуюцца за кошт бюджэтных сродкаў.

Пераход на поўную самаакупнасць правядзе тлустую рысу паміж тымі камунальнымі гаспадаркамі, якія своечасова паспелі абнавіць зношаную інфраструктуру, і тымі, каму па якіх-небудзь прычынах гэта не ўдалося. Апошнія пры наяўнасці адзіных тарыфаў на паслугі ЖКГ будуць асуджаныя на стратную працу. Гэта прывядзе да немагчымасці своечасовага абнаўлення матэрыяльна-тэхнічнай базы ў далейшым. А значыць, што ў перспектыве мы атрымаем выразны падзел на шчасныя і няшчасныя кварталы.

## Каб не пераплачваць за камунальныя паслугі, давядзецца панесці дадатковыя выдаткі на лічыльнікі

Адно з ключавых правілаў бізнесу кажа, што нельга кіраваць тым, што немагчыма вымераць. Апошнія падзеі паказваюць, што беларускія камунальнікі да гэтага часу так і не навучыліся аб'ектыўна вымяраць сабекошт аказання паслуг.

Працяг на стар. 8 (2) »

«ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 | 16 снежня 2016 | № 48 (513) Новы Час

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 7 (1)

# Рэформа ЖКГ

Для таго, каб зразумець, чаму так адбываецца, прапаную зірнуць на суадносіны камунальных тарыфаў, што субсідуюцца дзяржавай, да памераў тарыфаў, якія прадугледжваюць поўнае пакрыццё выдаткаў.

Розніца ва ўзроўні кампенсацыі выдаткаў на вываз цвёрдых камунальных адходаў і цеплавую энергію складае прыкладна адзін да шасці. Прычым размеркаванне ўзроўню кампенсацыі выдаткаў мае адну важную заканамернасць: чым менш страты, не звязаныя з канчатковым спажываннем паслуг, тым большая частка выдаткаў пакрываецца насельніцтвам.

Прасцей за ўсё кантраляваць працэс вывазу цвёрдых адходаў і пастаўкі прыроднага газу. У выніку тут узровень кампенсацыі затрат падняўся ўжо вышэй за 75%.

Горш атрымліваецца кантраляваць страты ў сістэме водазабеспячэння і каналізацыі. У выніку ў гэтай сферы пакрыццё расходаў знаходзіцца на ўзроўні 40%.

Самая складаная сітуацыя ў сістэме цеплазабеспячэння. Выдаткі на цеплавую энергію нясталыя і залежаць ад умоў надвор'я. Спецыфіка паслугі мае на ўвазе непазбежную страту цяпла да моманту спажывання. Пры гэтым лічыльнікі цеплавой энергіі пакуль ёсць толькі ў некаторых. У выніку ўзровень пакрыцця выдаткаў на цеплазабеспячэнне пакуль знаходзіцца толькі на ўзроўні 15,6%.

Лагічна выказаць здагадку, што пераход на максімальную кампенсацыю выдаткаў на цеплавую энергію будзе суправаджацца масавай устаноўкай адпаведных лічыльнікаў. На жаль, іх устаноўка значна складанейшая, чым лічыльнікаў вады ці газу, што ў выніку адбіваецца на выніковай цане.

Але далёка не ўсё так дрэнна, як можа здацца. У пераходзе да максімальнай кампенсацыі камунальных выдаткаў насельніцтвам не менш станоўчых бакоў, чым адмоўных.




**Працэнт расходаў на жыллёва-камунальныя паслугі ў агульнай суме выдаткаў хатніх гаспадарак Рэспублікі Беларусь у 2010–2015 гадах.**
Крыніца: Белстат

### Першы станоўчы вынік — сабекошт жыллёва-камунальных паслуг зменшыцца

Кажучы пра тое, што частка аплаты паслуг ЖКГ пакрываецца за кошт дзяржаўнага бюджэту, трэба разумець, што канчатковым плацельшчыкам усіх камунальных выдаткаў усё роўна з'яўляецца насельніцтва. Асаблівасць толькі ў тым, што яно аплачвае іх праз падаткі.

Гэта значыць, што жыхары павінны быць зацікаўленыя ў скарачэнні сабекошту паслуг ЖКГ. Аднак сёння пры фінансаванні жыллёва-камунальнай сферы за кошт дзяржаўнага бюджэту гэтага не адбываецца. Прычына палягае ў так званым «эфекце падзелу выдаткаў». Сутнасць гэтага псіхалагічнага эфекту заключаецца ў тым, што насельніцтва толькі тады будзе старанна сачыць за сабекоштам аказання камунальных паслуг, калі пачне плаціць за іх з уласнай кішэні.

Гэты працэс пацвярджае дынаміка кошту жыллёва-камунальных паслуг за апошнія пяць гадоў.

Нягледзячы на павелічэнне працэнта кампенсацыі кошту камунальных паслуг насельніцтвам, у апошні пяць гадоў назіраецца скарачэнне тарыфаў на камунальныя паслугі ў доларавым выразе. Тарыф на ацяпленне скараціўся ў тры разы, гарачае водазабеспячэнне патаннела ў два з паловай разы, значна скараціліся тарыфы на газазабеспячэння і каналізацыю. Трохі павялічыўся толькі тарыф на тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў.

Гэта сведчыць аб тым, што павелічэнне працэнта кампенсацыі камунальных выдаткаў насельніцтвам пакуль ажыццяўляецца не за кошт павелічэння тарыфаў, а за кошт зніжэння сабекошту аказання паслуг.

### Другі станоўчы вынік — разгрузіцца расходная частка дзяржаўнага бюджэту

Скарачэнне падатковых паступленняў вымушае праводзіць секвестр бюджэтных выдаткаў. У сувязі з гэтым рэформа сферы ЖКГ прыйшлася да часу. Вызва-

# Леанід Заіка: Спецыялістам ЖКГ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларуская жыллёва-камунальная гаспадарка — гэта адзін вялікі міф і шмат праблем. Што гэта за міфы і як назаўсёды вырашыць праблемы ЖКГ, НЧ паспрабаваў высветліць у эканаміста, кіраўніка аналітычнага цэнтру «Стратэгія» Леаніда Заікі.**

### Мы плацім за паслугі?

Што заўсёды здзіўляе: кошт паслуг ЖКГ падвышаецца з года ў год і з месяцу ў месяц. І таксама з года ў год чыноўнікі ад ЖКГ сцвярджаюць: насельніцтва аплачвае толькі каля 40% выдаткаў (у 2016 годзе, праўда, сказалі пра 50%). Дзіўна: тарыфы растуць штогод, а аплачвае насельніцтва ўсё роўна палову.

— Гэта ўсё у межах тарыфаў натуральных манаполій, — кажа Леанід Заіка. — Тарыфы падвышаюцца таму, каб у чыноўнікаў былі заробкі, прэміі, і ім лягчэй жылося. Гэта выключна лабісцкія захады. І слушна павышаюць, — таму што людзі маўчаць. Да тых часоў, пакуль людзі будуць маўчаць — будуць павышаць тарыфы.

Праблема аплаты ЖКГ — гэта найперш праблема 70% насельніцтва, якое жыве ў гарадах. Тыя, хто жыве ў вёсцы, за ЖКГ амаль не плацяць. Першае, што б я зрабіў: гэта набыў бы ў падрунак міністру ЖКГ цеплавізар. Другое: папрасіў бы кіраўніка дзяржавы пазычыць верталёт, каб міністр разам з прэм'ерам



**Леанід Заіка:**

**«Ні МВФ, ні Сусветны банк нічога ад нас не патрабуюць»**

увечары праляцелі над Мінскам і праз цеплавізар пабачылі, дзе адбываюцца ўцечкі цяпла. Зараз, зімою, можна са спадарожніка зрабіць фотаздымкі гарадоў, і мы пабачым, што на фоне белага снегу будзе шмат зялёных сцяжынак — гэта бачная ўся структура цеплаправодных сетак. Яны грэюць зямлю, — і за гэта мы плацім. Тыя, хто жыве ў гарадах, павінны ведаць, што 49% цяпла ў зімовы час застаецца ў трубах.

Камунальнікі настойваюць, каб мы аплачвалі «падагрэў зямлі». Што рабіць? Альбо адключаць трубы, альбо рабіць іх цеплаізаляцыю. Але найлепшы спосаб — увогуле адмовіцца ад такога спосабу ацяплення.

Электрычнасць. Электрычнасць у нас выпрацоўваецца, збольшага, з газу, але ёсць альтэрнатыва — ставіць сонечныя батарэі. Калі нашы міністры ў гэта не вераць, я запрашаю іх з'ездзіць у Германію: у прыгарадах Берліну сонечнымі батарэямі абсталяваны кожны дом. Немцы лічыць умеюць, і таму ад 30 да 50 працэнтаў электрычнасці можна набіраць «сваёй».

У нас рэгулярна павышаюцца тарыфы на вываз і перапрацоўку смецця. Мяне гэта вельмі здзіўляе. Перапрацоўка смецця — звышпрыбытковая справа, і нездарма ў Італіі смеццем займаецца мафія. А пачынаць трэба з усталёўкі вэб-камер на смеццевых пляцоўках. Чаму? Смеццезборачныя машыны ў нас прыязджаюць па раскладзе. А смецця ў кантэйнерах можа быць 20% ці 50%. Праз камеры рацыянальна распрацоўваецца маршрут, так зрабілі эстонцы.

Каналізацыя: можна набыць сістэмы ачысткі вады і каналізацыі французскай вытворчасці з каэфіцыентам 98%. Калі невялікі дом, на 10–15 кватэр, — усё перапрацоўваецца на месцы. Мой брат набыў такую на свой дом: «перапрацаванай» вадой можна паліваць участак, мыць машыну...

### Злы МВФ

Нам кажуць, што давядзення ўзроўню аплаты «камуналкі» да ста працэнтаў патрабуе Міжнародны валютны фонд. З-за яго і павышаюцца тарыфы.

— Я працаваў у Вашынгтоне ў Сусветным банку, а будынак МВФ знаходзіўся якраз насупраць. Мы стасаваліся з тымі банкірамі, і я кажу — не трэба хлусіць. Ні МВФ, ні Сусветны банк нічога ад нас не патрабуюць. Мы ім, па вялікім рахунку, «да зоркі». Яны выдаюць крэдыты, на гэтым зарабляючы грошы. МВФ — гэта звычайная бізнес-арганізацыя, якая пад 1% бярэ свабодныя грошы ў добра працуючых шведаў і немцаў, і дае іх пад 4% кепска працуючым украінцам і беларусам. Таму, калі нехта піша, што МВФ нешта «патрабуе» ад беларусаў, спачатку павінна быць фраза: «Мы, бяздарна ажыццяўляючы эканамічную палітыку, засталіся без грошай і вырашылі іх пазычыць. Каб нам пазычыць грошы, крэдыторы МВФ кажуць: «Калі вы не рацыяналізуеце вашу камунальную гаспадарку, мы вам грошай не дамо, таму што вы не здолееце іх нам вярнуць». «Патрабаванне» МВФ — гэта размова нармальных людзей, якія хочуць, каб грошы ім былі вернутыя. Яны на гэтым зарабляюць, з гэтага яны маюць заробкі па сто тысяч долараў на год.

### Колькі каштуе ЖКГ?

Лукашэнка некалі казаў, што ён можа падняць заробак да 1000 ці 2000 еўра, але «тады вы будзеце поўнасцю аплачваць усе выдаткі». І дадаў, што грамадства да гэтага не гатовае. Але, калі нават камунальнікі не змаглі дакласці Лукашэнку тарыфы, ці можам мы казаць, які кошт поўнай аплаты камунальных паслуг?

— Па-першае, ніводны кіраўнік дзяржавы ні ў адной краіне свету не ў стане асабіста ўзняць заробкі ў два разы. Па-другое, тое, што зараз паказваюць камунальнікі, часцяком звязана з неабходнасцю іх сустрэч з пракурорам. Таму што ў выдаткі яны ўпісваюць што заўгодна. Нават кіраўніку дзяржавы камунальнікі не сказалі, колькі каштуе літр чыстай вады, у колькі абыходзіцца кілаграм бытавых адкідаў, колькі каштуе гігакалорыя цяпла...

Увогуле, разлікі выдаткаў на ўтрыманне жылля павінны рабіць не камунальнікі. Гэта павінны рабіць незалежныя спецыялісты. Мы можам сфармаваць групу навукоўцаў з Акадэміі навук: фізікаў, матэматыкаў, спецыялістаў у галіне перадачы энергіі, цеплаінжынераў, — і на працягу паўгода яны ўсё вымераюць. Альбо замовіць маніторынг шведам ці немцам. Яны выведуць усё з дакладнасцю да капейкі, паколькі ў іх усе гэтыя паслугі дакладна пралічаныя.

### Якая жыроўка «справядлівая»?

Калі мы не ведаем, які сабекошт жыллёва-камунальных паслуг, то і разлічыць «справядлівую» жыроўку ў нас не атрымаецца?

— Ніякіх праблемаў! — кажа Заіка. — Беларусь — краіна з адкрытай эканомікай, і кошты на тарыфы ў нас павінны складацца на ўзроўні рэгіёну. Бярэм «жыроўку» Літвы, Польшчы, Калінінграда, і атрымліваем прыкладную суму, якая павінна быць у нас. Тут лічыць нічога не трэба. Я лічыў яшчэ ў 1990-я, у мяне атрымлівалася, што адзін пакой павінен абыходзіцца ў 50 долараў. Гэта па максімуме, улічваючы «савецкі» тып ацяплення і энергазберажэння.

Канешне, для нашага чалавека аддаць за двухпакаёўку

# на фоне крызісу




**Суадносіны тарыфаў, што субсідуюцца дзяржавай, да велічыні тарыфаў, якія прадугледжваюць поўнае пакрыццё выдаткаў, на канец 2016 года, %.** Крыніца: Белстат

леныя сродкі можна накіроўваць на падтрымку іншых бюджэтных сфер, якія маюць вострую патрэбу ў фінансаванні.

За апошнія два гады расходы на жыллёва-камунальныя паслугі і жыллёвае будаўніцтва ў кансалідаваным бюджэце Рэспублікі Беларусь скараціліся з 8,5% да 6,4%. Прычым большую частку гэтай сумы сёння складае жыллёвае будаўніцтва.

Па выніках першага паўгоддзя 2016 года ўдзельная вага расходаў на жыллёва-камунальныя паслугі і жыллёвае будаўніцтва ў кансалідаваным бюджэце краіны склала толькі 4,9%. Вызваленыя сродкі былі накіраваны ў адукацыю і сацыяльную палітыку. Дадзены факт можна ацаніць толькі станоўча, паколькі відавочна, што бюджэтныя сродкі ў камунальнай сферы трацiлiся неэфектыўна.

## Трэці станоўчы вынік — бюджэтныя выдаткі на ЖКГ стануць сацыяльна справядлівымі

Найбольшую выгаду ад субсідавання камунальных выдаткаў здабываюць тыя, хто валодае вялікай колькасцю квадратных метраў нерухомасці. Найбольшую частку з іх складаюць забяспечаныя сем'і. У выніку дзейсную сістэму можна ахарактарызаваць фразай «біты нябітых вязе». У сувязі з чым скарачэнне бюджэтнага фінансавання жыллёва-камунальнай сферы паспрыяе больш справядліваму размеркаванню бюджэтных сродкаў.




**Тарыфы на камунальныя паслугі па стане на снежань 2010 года і снежань 2015 года, $ па курсе Нацбанка Рэспублікі Беларусь.** Крыніца: Белстат, Нацбанк

Важным крокам у гэтым кірунку з'яўляецца таксама ўкараненне сістэмы безнаяўных жыллёвых субсідый. Гэта дазволіць накіроўваць сродкі




**Расходы на жыллёва-камунальныя паслугі і жыллёвае будаўніцтва ў кансалідаваным бюджэце Рэспублікі Беларусь у 2010–2015 гады, %.** Крыніца: Мінфін

менавіта тым, хто ў іх больш мае патрэбу.

У завяршэнне неабходна адзначыць, што дадзеная рэформа наспела ўжо даўно. Калі б яна была рэалізавана на некалькі гадоў раней, то негатыўныя наступствы былі б не такія прыкметныя і да сённяшняга дня ўжо пераадолены. Правядзенне рэформы ЖКГ на фоне крызісу павышае сацыяльныя рызыкі. Ці атрымаецца іх з поспехам пераадолець, пакажа час.

# беспрацоўе не пагражае

сто долараў — гэта дорага. Але, дзеля справядлівасці, адзначу, што ва ўсім свеце аплата жылля складае 25% сукупнага даходу сям'і. У нас сярэдні заробак 370 рублёў, працуюць жонка і муж, разам зарабляюць 740 рублёў. Па сусветных правілах, за жыллё яны павінны плаціць 185 рублёў, то бок прыкладна тыя ж сто долараў. Праўда, у свеце ў гэтыя 25% уваходзяць грошы на аплату крэдыту за жыллё.

Жыллё, асабліва ў гарадах, не павінна быць танным. З іншага боку, у нас ёсць кампаніі, якія прадаюць паслугі інтэрнэту па 30–50 долараў. У нас выдаткі на інтэрнэт і мабільную сувязь могуць быць большыя, чым камунальныя паслугі. І людзі ідуць на гэта, каб трац背чаць па тэлефоне альбо посціць у сацсеткі фоты коцікаў.

## Як не плаціць за ЖКГ увогуле?

— Самыя вялікія камунальныя плацяжы — гэта цеплаэнергія, 49% якой губляецца ў трубах. Праблема вырашаецца элементарна. У Літве, Польшчы, Германіі, нават у Расіі не вырашаюць усталёўкай індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў. Абразаем трубы, ставім аўтаномную кватэрную сістэму ацяплення. Па-першае, не трэба глядзець тэлевізар, каб даведацца, калі ацяпленне ўключаць ці выключаць. Па-другое, ужо ніхто не скажа: «Вы сядзіце на наркатычнай ігле нашых цеплastанцыяў, і мы будзем вам падымаць тарыфы, а вы будзеце гэта ўсё аплачваць».

Гэтае пытанне вырашаецца на працягу 15 хвілін — кіраўнік дзяржавы падпісвае ўказ пра заахвочванне ўстаноўкі індывідуальных сістэм ацяплення жылля для грамадзян Беларусі. Паставіць і наладзіць газавы кацёл — справа аднаго дня. Мой знаёмы гаспадар цырульні вывеў кватэру з жыллёвага фонду і паставіў там кацёл. Але яму год спатрэбіўся, каб сабраць розныя даведкі і атрымаць дазвол на ўсталёўку абсталявання.

А ўвогуле, па словах эканаміста, у краіне трэба змяніць падыход да забудовы. «Беларусы даўно заслужылі права жыць ва ўласных дамах. Калі, канешне, яны лічаць сябе гаспадарамі краіны», — зазначае Заіка.

— Сёння амаль любы жыхар Беларусі ў стане пабудаваць свой дом, паставіць сонечныя батарэі, добрыя вокны і дзверы, зрабіць функцыянальным ацяпленне, а потым прыводзіць у госці міністра ЖКГ, прэм'ера і кіраўніка дзяржавы ды паказваць, колькі гэта каштуе. Гэта будзе не вельмі дорага. Я б стымуляваў менавіта такое будаўніцтва.

Будаўнічыя тэхналогіі даўно пайшлі наперад. Можна будаваць дамы каркасныя, драўляныя... У межах 20 тысяч долараў можна паставіць нармальны дом. Вялікія дамы — гэта 60-я гады мінулага стагоддзя. Трэба адыходзіць ад старой забудовы, ад старых дамоў, калі трубы спачатку кладуць, потым дастаюць. Сучасны дом — практычны. Стаўце водныя насосы на 70 метраў — ідзе вада 14 градусаў цяпла, можна дом адразу ацяпляць. Сонечныя батарэі, газавы кацёл — і ніхто нікому нічога не плаціць. Чалавек жыве ва ўласнае задавальненне і не глядзіць у квіткі, дзе яму напісаны прыгавор: колькі ён павінен плаціць за падагрэў зямлі.

## Зямлю — народу

Індывідуальнае будаўніцтва таксама ўпіраецца ў праблему прыватнай уласнасці на зямлю, якога ў нас, фактычна, няма. Але і гэта, паводле слоў Заікі, кіраўнік дзяржавы можа вырашыць адным указам.

— Запрасіў у Адміністрацыю прэзідэнта дзве тэлегрупы і ва ўрачыстай абстаноўцы выдаў першыя зямельныя сертыфікаты. Усё. А зямля і так прадаецца. Сёння яе прадаюць чыноўнікі, яны на гэтым сядзяць і могуць быць на гэтым доларавымі мільянерамі. Мне адзін бізнесовец плакаўся: за выдзяленне ўчастка пад забудову ў Мінску з яго запатрабавалі хабар у мільён долараў.

Чыноўнікі прысабечылі зямлю, а потым кажуць пра «тарыфы, выдаткі» і гэтак далей. Зямлю трэба даваць маладым, студэнтам, выпускнікам, спецыялістам. Навошта маладыя едуць у будаўнічыя атрады ў нейкія іншыя краіны, замест таго, каб будаваць свае дамы?

## Беспрацоўя не будзе

Але такім чынам ліквідуецца амаль уся сістэма жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Што будуць рабіць тысячы чыноўнікаў, якія зараз займаюцца... Праўда, мы не ведаем, чым.

— Не перамайцеся, не здарыцца беспрацоўя! У мяне на ЖЭС — усяго два слесары-сантэхнікі! У маім раёне — два ВНУ, Інстытут павышэння кваліфікацыі і Універсітэт культуры. І ўсе рыхтуюць менеджараў. Сотні студэнтаў-менеджараў — ды ў нас столькі прадпрыемстваў няма, каб яны імі кіравалі! А на дзве тысячы кватэр — два сантэхнікі. Так што не бойцеся: спецыялістам ЖКГ беспрацоўе не пагражае.



# Субсідыі на камуналку: дзе і колькі?

**Нагадаем, што ў Беларусі з казны аплацяць частку сумы ў жыроўцы ў тым выпадку, калі яна будзе перавышаць 20% прыбытку гарадской сям'і ці 15% сельскай. Пры гэтым пакрыюць толькі розніцу паміж парогавым значэннем і перавышэннем. А як кампенсуюць аплату камуналкі ў іншых краінах?**



## Украіна

Пачнём са складанай сістэмы выдзялення субсідый — украінскай. Справа ў тым, што там не ўстаноўлена выразнай рысы, каб атрымаць права на дапамогу ад дзяржавы. Усё залежыць ад двух фактараў: даходу сям'і і колькасці жыхароў у кватэры. То бок, калі ў нас для прадастаўлення субсідыі бяруць у разлік сукупны даход сям'і і прыраўноўваюць, якую працэнт займаюць лічбы ў жыроўцы, дык ва Украіне звяртаюць увагу на сярэдні даход на кожнага чалавека ў сям'і. Чым менш прыходзіцца грошай на аднаго чальца сям'і, тым большая сума падтрымкі ад дзяржавы.

Пры аднолькавым даходзе на чалавека больш атрымае тая сям'я, дзе больш людзей.

Напрыклад, сям'я з двух чалавек мае прыбытак у 10 700 грыўняў (каля 821 беларускага рубля). Гэта дзве сярэднія ўкраінскія зарплаты. За кватэру прыходзіць рахунак у 3070 грыўняў. Калі верыць спецыяльным калькулятарам, дык гэта мінімальная сума (каля 30% прыбытку), для якой гэтай сям'і даецца дапамога ад дзяржавы. Праўда, вельмі маленькая — усяго 1,11 грыўні. Сітуацыя мяняецца кардынальна, калі, напрыклад, у мужа і жонкі з'явілася дзіця. У гэтым выпадку пры тых жа лічбах у жыроўцы і ранейшым даходзе сям'і даплацяць 1024 грыўні. Другое дзіця павялічыць гэту суму яшчэ на 500 грыўняў. Іншымі словамі, сям'і з двума дзецьмі «спішуць» палову камунальных плацяжоў.

Дарэчы, у кастрычніку 2016 года Кабінет міністраў Украіны дазволіў аплачваць камунальныя паслугі ў растэрміноўку, што таксама павінна дапамагчы малазабяспечаным грамадзянам.

## Расія

У Расіі сістэма прадастаўлення жыллёвых субсідый таксама няпростая. Па-першае, іх могуць атрымаць сем'і, якія расходуюць на аплату камунальных паслуг больш за 22% ад сярэдняга даходу сям'і. Аднак гэтая лічба можа мяняцца ў залежнасці ад рэгіёна, напрыклад, у Маскве парог складае 10%.

**У некаторых еўрапейскіх краінах такога паняцця, як жыллёвыя субсідыі, не існуе. Там у асноўным можна атрымаць дапамогу ў аплаце арэнды. Хоць часцяком плата за ЖКП уваходзіць у яе памер**

Па-другое, формула разліку ўлічвае плошчу кватэры і колькасць тых, хто пражывае. Таксама сума кампенсацыі будзе залежаць ад суадносін сярэдняга даходу на чальца сям'і і пражытачнага мінімуму. Чым больш гэтая розніца, тым вышэй падтрымка.

Калі па даходах вы падыходзіце, дык пагледзяць на памер кватэры. Калі плошча жылога памяшкання занадта вялікая, дык, хутчэй за ўсё, у выплаце будзе адмоўлена. Нарматывы такія: для самотнага грамадзяніна — не больш за 33 квадратныя метры; для сям'і з двух чалавек — не больш за 42; для сям'і з трох і больш чалавек — па 18 квадратных метраў на кожнага. Калі ва ўласнасці некалькі кватэр, то кампенсацыю часткі аплаты за «камуналку» можна атрымаць толькі для адной з іх.

Для аналагічнай сям'і з двума дзецьмі, якую мы разглядалі на прыкладзе Украіны, у Маскве можна атрымаць субсідыю ў памеры 8550 расійскіх рублёў (прыкладна 260 беларускіх) пры суме ў жыроўцы амаль у 9700 (295) рублёў. Гэта значыць, дзяржава пакрые амаль 90% налічанай платы, калі сям'я з двух чалавек жыве прыкладна на 400 долараў.

Усяго ў Расіі карыстаюцца сацыяльнай падтрымкай па аплаце камунальных паслуг 4,2 мільёна сем'яў (7,5%).

## Польшча

У Польшчы таксама ёсць субсідаванне жыллёва-камунальных паслуг. Яно называецца «Жыллёвая прыбаўка». Яе даюць адзінокім асобам і сем'ям, месячны ўзровень даходаў якіх ніжэй за мінімальную зарплату ў Польшчы — 1355 злотых (гэта каля 635 беларускіх рублёў). Пры гэтым жылая плошча для аднаго чалавека не павінна перавышаць 35 квадратных метраў, двух чалавек — 40, трох — 45, чатырох — 55, для кожнага наступнага чалавека дадаюцца чарговыя 5 «квадратаў».

Сума дапамогі ў кожным выпадку розная. Напрыклад, для самотнага чалавека, які атрымлівае 1200 злотых (562 рублі) і жыве ў памяшканні плошчай 35 квадратных метраў, плацячы пры гэтым за камунальныя паслугі 420 злотых (197 рублёў), жыллёвая прыбаўка складзе прыкладна 240 злотых, гэта значыць амаль 60% ад агульнай сумы «камуналкі».

## Латвія ды іншыя

У Латвіі прэтэндаваць на дапамогу ў пакрыцці выдаткаў на жыллёва-камунальныя паслугі можна, калі пасля аплаты рахункаў за кватэру, газ і электрычнасць на руках застаецца сума, меншая, чым гарантаваны мінімальны даход — 49,8 еўра.

У іншых жа еўрапейскіх краінах такога паняцця, як жыллёвыя субсідыі, не існуе. Там у асноўным можна атрымаць дапамогу ў аплаце арэнды. Хоць часцяком плата за ЖКП уваходзіць у яе памер.

Так, напрыклад, адбываецца ў Францыі. Там адмысловы дзяржорган, так званы «Фонд сямейнай дапамогі», вяртае частку выдаткаванай на арэндную плату сумы. Памер дапамогі залежыць ад некалькіх фактараў: кошту арэнды, плошчы і тыпу жылля, колькасці тых, хто пражывае, узросту, сямейнага становішча, заробітнай платы або стыпендыі (для студэнтаў).

Падобная сістэма дзейнічае ў Германіі і іншых дзяржавах. Скажам, немцы для атрымання дапамогі ад дзяржавы павінны зарабляць у месяц, за вылікам страховак і медыцынскіх расходаў, не больш за: 870 еўра на аднаго чалавека, 1190 еўра — на дваіх, 1450 еўра — на трох, 1900 еўра — на чатырох, 2180 еўра — на пецярых. Бацька ці маці, якія самастойна выхоўваюць дзіця, для атрымання дапамогі павінны зарабляць менш за 1320 еўра на месяц.

Алег НОВІКАЎ

**Як і прагназавалася, пасля перамогі Дональд Трамп хутка перасварыўся з істэблішментам Рэспубліканскай партыі. Праўда, прадмет спрэчкі незвычайны — ці трэба караць за спаленне дзяржаўнага сцяга?**




# Спальваць ці не спальваць?

У фільме «Кангрэсмен» апісваюцца прыгоды амерыканскага парламентара, якому праціўнікі сярод іншага закідаюць здзек з дзяржаўнага сцяга. Маўляў, ён праігнараваў рытуал штодзённай прысягі пад сцягам. Абыякавасць да рытуалу ледзь не каштавала небараку датэрміновай адстаўкі, што асобна ілюструе, які высокі статус мае дзяржаўная сімволіка для амерыканскай супольнасці.

З улікам апісанага вельмі дзіўна, што ў ЗША дасюль можна без пакарання паліць дзяржаўны сцяг. Тым больш, што адначасова існуюць вельмі добра прапісаныя правілы яго выкарыстання — так званы «Кодэкс сцягу». У ім хапае забаронаў, у тым ліку самых арыгінальных. Так, нельга прыспускаць сцяг на знак павагі да чалавека (нават калі гэта кароль) або прадмета, падымаць (вывешваць) так, каб ён дакранаўся да чаго-небудзь пад ім: зямлі, падлогі, вады, іншых прадметаў, нельга заварочваць што-небудзь у сцяг, друкаваць яго выяву на прадметах аднаразовага выкарыстання і гэтак далей.

Але ніякага пакарання за парушэнне апісаных правілаў не прадугледжана. Лічыцца, што такое пакаранне супярэчыць Першай папраўцы ў Канстытуцыю, якая гарантуе грамадзянам краіны права на асабістую думку. Да такіх правоў адносяць і спаленне сцягу. Паводле рашэння Вярхоўнага суда ад 1989 года, спаленне сцягу трэба разумець як «сімвалічную прамову». Да таго ж, спаленне старых, непрыдатных для выкарыстання сцягоў, прадугледжана і «Кодэксам сцягу» (каб не былі выкінутыя на сметнік, дапушчальная іх утылізацыя агнём).

Праўда, адзін раз у гісторыі за здзек са сцяга ЗША сапраўды пакаралі смерцю. Здарылася гэта падчас грамадзянскай вайны, калі ў Новым Арлеане нехта сарваў сцяг Злучаных Штатаў. Суддзі пабачылі ў гэтым замах на дзяржаўнае адзінства і віноватага паставілі да сценкі.

Нягледзячы на тое, што спаленне сцягу было вельмі папулярнае ў часы студэнцкіх пратэстаў у 1960-х, максімум, што атрымлівалі за гэта радыкалы, — штраф у 20 долараў. Аднак і такія выпадкі можна пералічыць на пальцах.

Такая ліберальная ўстаноўка яшчэ больш дзіўная з улікам таго, што ў іншых краінах за здзек са сцягу пагражае салідная пакаранне. У Алжыры за гэта могуць адправіць за краты на тэрмін да 10 гадоў. У Кітаі акрамя турэмнага зняволення (да трох гадоў) могуць пазбавіць яшчэ і грамадзянскіх правоў.

Натуральна, у Еўропе заканадаўства больш ліберальнае. Напрыклад, у Аўстрыі за зняважлівы ўчынак у дачыненні да сцяга максімальна пагражае да 6 месяцаў зняволення, аднак, як правіла, усё абмяжоўваецца штрафам. Вельмі незвычайна трактуецца гэта злачынства ў Харватыі. Яшчэ ў часы, калі край быў у складзе Аўстра-Венгрыі, два харвацкія нацыяналісты публічна спалілі імперскі сцяг. Працэс над імі стаў важнай старонкай у гісторыі нацыянальнага адраджэння. Магчыма таму пакаранне за здзек з харвацкага сцяга — максімум год турмы. У Італіі, напэўна, самы высокі штраф за такія ўчынкі — да 10000 еўра. У Францыі таксама шмат — да 7500 еўра, аднак апошні раз асуджанаму па адпаведным артыкуле давялося заплаціць толькі 700 еўра.

У Германіі за спаленне або здзек са сцягу даюць да трох гадоў, аднак у вандалаў ёсць выйсце. Можна выразаць дзірку ўнутры сцяга, і ў такім выпадку гэта будзе азначаць пратэст супраць камуністычнай дыктатуры ва Усходняй Германіі. Нагадаем, што ў 1989-м пратэстоўцы з ГДР выразалі са сцягу герб краіны (выява гербу ў цэнтры сцягу — тое адзінае, што адрознівала сімвал ГДР ад сімвалу ФРГ). Пасля аб'яднання Германіі сцягу з дзіркай давялося надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Нарэшце, хапае краін, дзе з дзяржаўным сцягам можна рабіць, што ў галаву прыйдзе. Не караюцца падобныя выхадкі ў Бельгіі, Канадзе, Аўстраліі. У гэтай сферы далей за ўсё пайшлі ў Даніі, дзе можна спаліць нацыянальны сцяг, аднак забаронена спальваць замежныя.

Прабел у заканадаўстве са сцягам, падаецца, вырашыў выправіць абараны прэзідэнт ЗША. На мінулым тыдні Дональд Трамп у сваім Twitter падзяліўся думкай на гэты конт: «Ніхто не мае права спальваць амерыканскі сцяг. Той, хто гэта зрабіў, павінен панесці пакаранне — пазбаўленне грамадзянства або год турмы».

Падобная прапанова, бясцам, цалкам адпавядае іміджу рэспубліканцаў, якія любяць прымаць позу патрыётаў. Тым больш незвычайнай была рэакцыя кіраўніцтва партыі. Ідэю Трампа ўжо асудзіў кіраўнік фракцыі рэспубліканцаў у Сенаце Мітч МакКонэл. Крытычна выказаліся яшчэ шэраг партыйных бонзаў. Як правіла, незадаволеныя прапановай Трампа кажуць пра тое, што яна не адпавядае прынцыпам права свабодна выказваць сваю пазіцыю. «Спаленне сцяга — неад'емная частка грамадзянскіх свабодаў. Мы павінны паважаць традыцыю неабмежаванага права на выказванне думкі», — мяркуе той жа Мітч.

Адзіны з аднапартыйцаў, хто падтрымаў ініцыятыву Трампа са сцягам, — ваяўнічы сенатар Джон МакКейн. Аднак і той лічыць, што спачатку трэба спытаць Вярхоўны суд. Прыкладна такі ж падыход і ў цяперашняй Адміністрацыі Белага дому, спікер якога пагадзіўся, што спальваць сцяг — гэта кепска, аднак нішто не павінна абмяжоўваць правы амерыканцаў.

Што тычыцца палітычных каментатараў, то яны палохаюць адваротнай рэакцыяй — выбухам у ЗША моды спальваць сцягі. Трамп вельмі адмоўна ўспрымаецца часткай грамадства, і яна відавочна рэактыўна будзе рабіць тое, што не падабаецца новаму прэзідэнту. Тым больш, што ініцыятыву са сцягам успрымаюць як «разведку» для атакі на фундаментальныя правы грамадзян.

Як піша прэса, забарона спальвання створыць падмурак для рэвізіі іншых канстытуцыйных правоў грамадзян. З іншага боку, ідэя Трампа наконт пакарання за спаленне сцягу дазволіць яму кансалідаваць свой электарат. Паводле апошніх апытанняў, 45 працэнтаў амерыканцаў — за пакаранне для аматараў паліць зорна-паласаты сцяг.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Нельга не адзначыць, што арышты журналістаў агенцтва «Regnum» у Беларусі адбыліся амаль ва ўнісон з абсалютна неадэкватнымі заявамі Назарбаева. На гэты раз прэзідэнт Казахстана раптам пусціўся ў развагі пра тое, як рускія прымушалі казахаў глытаць пыл… У абодвух выпадках мы назіраем адно і тое ж — і Лукашэнка, і Назарбаеў разумеюць, што часу ў іх застаецца ўсё менш. Як следства, ужо праверaны крокі набываюць паскараны і больш грубы характар. (…) У канчатковым рахунку, усё гэта кажа толькі пра адно. Пакуль постсавецкімі рэспублікамі кіруюць палітычныя выхадцы з Савецкага Саюза, нічога не зменіцца. Яны заўсёды будуць разглядаць свае дзяржавы як асабістую ўласнасць, для абароны якой варта адмовіцца ад любых прынцыпаў.

**«Сегодня» (Расія)**

У Брусэлі ўрад PiS (польская партыя «Права і Справядлівасць») не жадаюць бачыць, затое яго запрашаюць у Мінск. Мары PiS пра моцную Польшчу ў моцнай Еўропе завяршаюцца ў Беларусі, якая знаходзіцца пад кантролем былога дырэктара калектыўнай фермы. Гонар быць прынятым у салонах кіраўніка Беларусі атрымаў кіраўнік польскага Сената. Атрымаў, напэўна, таксама задавальненне, як і тыя сябры PiS, хто раней наведваў Мінск. Такі добры чалавек гэты Лукашэнка. А тое, што пераследуе польскую меншасць, задушыў палітычную апазіцыю і СМІ, якая справа да гэтага PiS?

**«Polityka» (Польшча)**

У Масквы на дадзены момант няма прычын урываца ў Беларусь. Наўрад ці яны з'явяцца і бліжэйшым часам. Мінск імкнецца не даваць Крамлю падстаў для прыняцця крайніх мер і абыходзіць «чырвоныя лініі» паспяхова, хоць і негалосна выбудоўваючы ў той жа час нейтралітэт на працягу ўжо больш чым дзесяці гадоў. Насуперак распаўсюджанай думцы, Масква трывае гэта (як і трывала ў свой час пабудову фінскага нейтралітэту). Больш за тое, як паказала спроба размясціць у Беларусі ў 2013–2015 гадах расійскую авіябазу, якая правалілася, Мінск паспяхова знаходзіць узаемапрымальныя рашэнні ў адносінах з Расіяй у сітуацыі, калі на яго ціснуць нават расійскія сілавыя ведамствы.

**«Azeri» (Азербайджан)**

Палітыка Мінска ў сферы інфармацыі — слабае звяно. Беларусь сур'ёзна прайграе ва ўплыве расійскім прапагандысцкім рэсурсам, якія добра фінансуюцца і ахопліваюць больш за 60 працэнтаў аўдыторыі краіны. У арсенале беларускага кіраўніцтва ёсць адзін апрабаваны спосаб — рэпрэсіі, аднак самі па сабе затрыманні мясцовых аўтараў артыкулаў для РФ агульнай сітуацыі не зменяць. Пакуль улады спалі, Крэмль захапіў беларускае інфармацыйнае поле.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Беларускія ўлады не павінны верыць таму, што арыштаваныя журналісты былі маргіналамі і крытыкавалі Лукашэнку па ўласнай ініцыятыве. Як мінімум два з трох рэсурсаў… належаць або кіруюцца ўладнымі структурамі Расіі. (…) Рыторыка Крамля, што выклікала рэакцыю Мінска, вельмі нагадвае інфармацыйную кампанію супраць Украіны напярэдадні ўварвання. Тыя ж тэзісы. Няма розніцы, якая палітыка вашай дзяржавы — імперыя прагне крыві і пашырэння.

**«Политнавигатор» (Украіна)**

А далей будуць яшчэ пасадкі і зачыстка поля. Пры гэтым я б асцерагаў украінскага чытача ад залішняга захаплення. Так, згодны, беларуская ўлада ў пэўных выпрабаваннях вельмі рашучая. Але гэта не азначае павароту Лукашэнкі ў бок дэмакратыі. Для «сонцападобнага» на сёння адэпты «русского мира» больш небяспечныя, чым тыя, хто шануе нацыянальныя традыцыі Беларусі. Вялікую небяспеку знішчаюць. Пры гэтым у Лукашэнкі не задрыжыць рука сапраўды гэтак жа прайсціся і па «патрыятычным полі», як толькі ён убачыць контуры структуры, гатовай яго зрынуць.

**«ИнфоРезист» (Украіна)**

# Каляды ў Германіі: ад Крампуса да Святога Мікалая

Алесь КІРКЕВІЧ

**Калейдаскоп нямецкіх калядных традыцый захаваўся на працягу стагоддзяў ды паўплываў на ўяўленне пра святкаванне Божага Нараджэння ва ўсім свеце.**

У чаканні Калядаў і Новага года немцы ператвараюць сваю краіну ў тэрыторыю казак і цудаў, робячы з яе нешта кшталту пернікавага доміка на радасць турыстам з усяго свету ды суайчыннікам. Феерыя агеньчыкаў, ялінак, вянкоў з амелы, свечак, у суправаджэнні паху глінтвейну ды міндальнага печыва стварае сапраўды незабыўнае ўражанне. Нічога дзіўнага няма ў тым, што шмат якія нашы ўяўленні пра Каляды і звязаныя з гэтым традыцыі маюць акурат нямецкія карані.

Педантычныя ў кожным аспекце жыцця і культуры немцы пачынаюць рыхтавацца да Калядаў задоўга да 24 снежня. Яшчэ 11 лістапада аб 11 гадзіне 11 хвілін ва ўсіх нямецкіх гарадах ды мястэчках стартуе сезон зімовых карнавалаў — так пачынаецца вялікі калядны цыкл.

## Адвент-каляндар

Аднак не варта лічыць, што святкаванне Калядаў выключна карнавальнае, тым больш камерцыйнае, разлічанае на турыстаў. Галоўны аспект — як сотні год таму, так і зараз, — сямейны.

Так, за чатыры тыдні да Божага Нараджэння ў нямецкіх сем'ях Гамбурга, Бонна, Мюнхена, Берліна і іншых гарадоў святкуюць Адвент. У дамах і кватэрах вешаецца або ставіцца вянок амелы з чатырма свечкамі. Спачатку запальваецца толькі адна свечка, а ў кожную наступную нядзелю — наступная. У апошнюю нядзелю гараць ужо ўсе чатыры агеньчыкі, — значыць, свята ўжо на парозе.

Яшчэ адна традыцыя, звязаная з Адвентам — гэта так званы Адвент-каляндар. Ён мае 24 акенцы — па колькасці дзён, якія засталіся да Нараджэння Хрыстовага. Кожны дзень дзіця адчыняе адно акенца і знаходзіць за ім шакаладную цукерку ці іншыя прысмакі. Ёсць і календары для дарослых — у акенцах могуць быць напісаныя жарты альбо змешчаныя рэпрадукцыі твораў мастацтва. Цікава, што адпаведныя календары зараз можна прыдбаць і для... хатніх жывёлаў: у акенцах будуць торбачкі з кормам.

## Калядная ялінка

Ці не самы вядомы калядны сімвал, які разышоўся па ўсім свеце менавіта з Германіі, — гэта, канешне, ялінка. Паводле






старадаўніх павер'яў, сярод яловага вецця хаваўся лясны дух. Некаторыя даследчыкі таксама сцвярджаюць, што ялінка — сімвал смерці адыходзячага года. Гэта адзінае дрэва, галіны якога скіраваныя не да сонца, але апушчаныя да зямлі як руна «Toten» — руна смерці. Славянскі звычай высцілаць хвояй сцяжынку да хаты памерлага — з той жа катэгорыі.

З часам ялінка трансфармавалася з паганскага сімвалу смерці ў адзнаку радасці і свята. Лічыцца, што першыя ялінкі, упрыгожаныя салодкімі прысмакамі, арэхамі ды яблыкамі, з'явіліся ў дамах эльзаскіх баўэраў і бюргераў яшчэ ў XVI стагоддзі. Прыкладна праз стагоддзе да ўсяго пералічанага камплекту ўпрыгожванняў дадаліся і свечкі. Зараз свечкі трансфармаваліся ў агеньчыкі і каляровыя гірлянды. Зрэшты, і сама ялінка ў сучасным успрыманні можа быць вельмі сімвалічнай — напрыклад, у выглядзе драбіны-страмянкі, з якой звісаюць шары і фігуркі.

## Святы Мікалай і яго антыпод

6 снежня — задоўга да Божага Нараджэння — адзначаецца дзень Святога Мікалая, які ў мультыкультурным свеце паспяхова ператварыўся ў Санта Клаўса. Напярэдадні ўвечары маленькія немцы прыводзяць у парадак свой абутак і выстаўляюць яго перад дзвярыма ў чаканні падарункаў, якія павінны там з'явіцца зранку. Паслухмяныя дзеці на працягу сотняў гадоў знаходзяць там раніцай прысмакі ды цацкі.

Значна менш вядомы нам персанаж — антыпод Святога Мікалая — Крампус. У розных частках Германіі ён называецца па-рознаму: Дзікі Клаўс, Кнехт Рупрэхт і інш. Фактычна, гэта інфернальная істота з рогамі ды капытамі, якая не адорвае дзяцей, а наадварот пужае ды патрабуе справаздачу за дрэнныя ўчынкі, зробленыя на працягу года.

Крампус мае свой мяшок, але носіць у ім вугаль, каб пакласці найбольш гарэзлівым хлопчыкам ды дзяўчынкам пад падушку. Найбольш упартых неслухаў істота можна нават закінуць у свой мех, каб выкінуць у мора альбо аднесці ў чорны замак ды з'есці. Часам Крампуса выяўляюць з бярозавымі розгамі, якімі той можа пакараць маленькіх немцаў, альбо, як варыянт, пакінуць сваю зброю бацькам на ўвесь год — як напамін пра магчымае пакаранне.

З культам Крампуса ў сярэднявеччы змагалася каталіцкая царква, але старадаўні культ аказаўся жывучы. У выніку атрымаўся дуэт: добры Святы Мікалай і злы Крампус. Інфернальныя з выгляду шэсці захутаных у бурую альбо чорную поўсць з казлінымі рогамі крампусаў і зараз праводзяцца ў Германіі і Аўстрыі.

У якасці казачных спадарожнікаў Калядаў таксама выступаюць Шчаўкунок (той самы, што апісаны ў казцы Гофмана) ды Фраў Холле. Апошняя гераіня можа інтэрпрэтавацца як «Спадарыня Зіма» альбо «Пані Мароз». Першакрыніца гэтага вобразу — язычніцкая багіня Хольда, якую шанавалі разам з Вотанам і Торам. З часам паганскі кантэкст адышоў, а Фраў Холле ператварылася ў казачнага персанажа, больш вядомага нам з казак братоў Грым.

## Кірмашы з 500-гадовымі традыцыямі

Асобная тэма — кірмашы, якія цягам каляднага цыклу праводзяцца па ўсёй Германіі. Там можна набыць інгрэдыенты для святочных страваў, выпіць піва альбо глінтвейну, з'есці пернік альбо каўбасу, засмажаную тут жа, альбо забегчы на коўзанку, якая можа знаходзіцца ў цэнтры кірмашу, схаваная за драўлянымі лаўкамі гандляроў. Сёння кірмашы арыентуюцца і на турыстаў, таму прыдбаць тут можна літаральна ўсё: ад фанацкіх шалікаў ды піўных куфляў да статуэтак Буды.

Кожны кірмаш мае свае рэгіянальныя адметнасці. Прыкладам, кірмаш у Мюнхене адчыняецца яшчэ 1 лістапада — за два месяцы да Новага года — і зварочваецца ў 20-х днях таго ж месяцу. Мюнхенскі кірмаш знакаміты сваёй гіганцкай 30-метровай елкай з больш як 2 000 свечак.

Адзін з найбольш вядомых кірмашоў праводзіцца ў Нюрнбергу. Там разліваюць свой непаўторны глінтвейн і смажаць фірмовыя каўбаскі. Дызайн адмысловых кубкаў для глінтвейну змяняецца штогод, на радасць турыстаў ды калекцыянераў.

Дрэздэнскі кірмаш вядомы сваім кексам — штоллен, традыцыя прыгатавання якога налічвае ўжо сотні гадоў. Традыцыя бярэ пачатак ад 1560 года, калі мясцовыя пекары зрабілі кекс у падарунак манарху, але памер і вага атрымаліся настолькі ўнушальнымі, што падняць прысмак змаглі толькі 16 чалавек!

## Гуска, свініна і каша

Святы вечар 24 снежня ў традыцыйных нямецкіх сем'ях прынята сустракаць у хатнім коле, пасля наведвання каталіцкай царквы альбо пратэстанцкай кірхі. Як і ў беларусаў, у немцаў ёсць пэўныя стандарты адносна сервіроўкі святочнага стала: як правіла, гэта мае быць сем альбо дзевяць страваў. Гэта можа быць і даволі сціплая пшонная каша на малацэ, прыпраўленая мёдам ды маслам, а можа быць і фаршыраваная гуска альбо свініна з квашанай капустай.

Хатняя вячэра — час, калі сям'я сустракаецца разам, каб павіншаваць адно аднаго ды абмяняцца падарункамі. Зрэшты, дзеці могуць разлічваць на падарункі яшчэ і на наступную раніцу. Вось толькі прыносіць іх ужо не Святы Мікалай, і зусім не Дзед Мароз, а Weihnachtsmann, што даслоўна перакладаецца як «Чалавек Раства». У некаторых мясцовасцях, напрыклад, у Баварыі, дзетак адорвае Калядны анёл.

Божае Нараджэнне, у пэўным сэнсе, час цішыні і медытацыі. Кавярні, кірмашы і крамы спыняюць працу, жыццё замірае ў чаканні нараджэння Збаўцы.

## Як заскочыць у Новы год?

Навагодняя ноч, у адрозненне ад Божага Нараджэння, адзначаецца як мага больш гучна і пампезна. Гэта час, калі нельга сядзець у хаце, а трэба выходзіць на вулічныя гулянні, канцэрты ды вячоркі ў клубах. Навагодняя ноч, пры гэтым, можа пачацца за хатнім сталом, а пасля ўжо перамясціцца на вуліцу, але толькі пасля абавязковага рытуалу: калі гадзіннік пачынае адбіваць «12» людзі розных узростаў забіраюцца на табурэты, фатэлі і крэслы, каб на апошнім удары «заскочыць» у Новы год.

Навагоднія салюты, у сваю чаргу, — не проста марнатраўства ды шык. Паводле старадаўняй традыцыі, стрэлы з гарматаў і рушніцаў мелі на мэце адпужваць злых духаў рознага кшталту. Яшчэ адна традыцыя — пошук на вуліцы трубачыста, сустрэча з якім абяцае немінучы поспех у надыходзячым годзе. Але найбольш шчасця атрымаюць тыя, хто здолее ў гэтую ноч яшчэ і вымазацца сажай — у гэтым разе ўдача дакладна не абыдзе бокам.

Сімвалічна, што нягледзячы на мультыкультурны курс у палітычным ды сацыяльным жыцці, немцы захавалі старыя традыцыі святкавання каляднага цыклу, сумясціўшы іх не толькі з сучаснасцю, але і з турыстычным попытам. Так традыцыя робіцца неўміручай ды зачароўвае не адно немцаў, але і ўсіх наведнікаў гэтай цудоўнай краіны.





# Ці ёсць такая нацыя?

Алег НОВІКАЎ

**Адна з тэм, якую зараз найбольш абмяркоўваюць у Расіі, — патрабаванне Пуціна распрацаваць закон аб расійскай нацыі. Пра тое, што стаіць за незвычайным капрызам Пуціна, «Новаму Часу» распавядае маскоўскі журналіст Дзмітрый Ільін.**

***— На пасяджэнні Савета пры прэзідэнце РФ па пытаннях міжнацыянальных адносін Уладзімір Пуцін ухваліў ідэю прыняцця закона аб рускай нацыі. Што за муха ўкусіла яго ўзняць «рускае пытанне»?***

— Фармальна, Крэмль занепакоіўся рускай нацыяй праз рашэнне Канстытуцыйнага суда Якуціі, які абвясціў усю тэрыторыю рэспублікі «роднай зямлёй і гістарычнай радзімай якуцкага народа». Пазней высветлілася, што падобныя фармулёўкі ёсць у Канстытуцыях іншых аўтаномій — Татарстану, Карэліі, Удмурціі і гэтак далей. А такое паняцце, як «рускі», у заканадаўстве адсутнічае. Гэта было ўспрынята як прававы нонсэнс. Аднак, на самай справе, не выключана, што якуцкі прэцэдэнт — проста фармальная падстава. У прэсе сустракаецца меркаванне, што патрэба новага закона — нейкая спроба сфармуляваць расійскую нацыянальную ідэю на ХХІ стагоддзе.

***— Як паставіліся да ініцыятывы Пуціна ўра-патрыёты? Напачатку 1990-х гадоў сярод іх цыркуляваў праект стварэння ў рамках РФ побач з іншымі нацыянальнымі рэспублікамі асобнай расійскай аўтаномнай рэспублікі, якая б таксама мела статус федэральнага суб'екта…***

— Як ні дзіўна, гэтай тусоўцы ідэя Пуціна не вельмі спадабалася. Гэта следства таго, што, па-першае, «патрыёты» дасюль лічаць адміністрацыю Пуціна ідэйна занадта стракатай. Для значнай часткі рускіх нацыяналістаў Пуцін — гэта той, хто кінуў рускіх на Данбасе. Адсюль думка, што закон пра нацыю — хітрая гульня крамлёўскіх лібералаў з мэтай пахаваць расійскую дзяржаўнасць. Па-другое, лічыцца, што падзел народа па этнічным прынцыпе, на «рускіх» і «нярускіх» пагражае тэрытарыяльнай цэласнасці Расіі. Акрамя таго, «патрыёты» жывуць міфамі пра імперыю Раманавых, дзе, быццам, панавала міжнацыянальная гармонія, і пры гэтым усе лічылі сябе рускімі. Нарэшце, для камуністаў руская нацыя магчымая толькі выключна ў «чырвоным фармаце».

***— А пазіцыя антыпуцінскай апазіцыі адносна праекту?***

— Апазіцыянерам закон аб рускай нацыі бачыцца як крызіс мыслення кіроўнай эліты, якая займаецца незразумела чым, у той час, калі ў грамадстве хапае вялікіх і сур'ёзных праблем, перш за ўсё сацыяльна-эканамічных. Нацыянальную ідэю нельга стварыць па загадзе. Або яна ў грамадстве рэальна існуе — прычым, без усялякіх дырэктыў. Або яе няма. То бок, закон аб рускай нацыі будзе яшчэ адным мёртванароджаным прадуктам бюракратыі, кшталту закона аб святкаванні Дня народнага адзінства. Дасюль грамадства блытаецца, што святкуецца 4 лістапада.

**«Русамі», або «рускімі», раней называлі народы, якія жылі на захад ад сучаснай тэрыторыі Расіі, а азначэнне «Русь» адносілася да кіеўскай дзяржавы**

***— Ва ўкраінскай прэсе ідэю рускай нацыі разглядаюць як сучасную рэдакцыю канцэпцыі адзінага рускага народу, складнікамі якога ёсць рускія, украінцы і беларусы. Маўляў, абапіраючыся на пастулаты ідэі рускай нацыі Масква будзе намагацца пашыраць свой уплыў на суседнія славянскія краны.***

— Сапраўды, у межах дэбатаў наконт закону гучыць прапанова стварыць адзіны рэестр этнасаў рускай нацыі, прадстаўнікі якіх могуць прэтэндаваць на атрыманне грамадзянства Расіі. Відавочна, туды могуць уключыць украінцаў і беларусаў з усімі наступствамі. Аднак на самай справе перад тым, як складаць рэестры, трэба разабрацца, хто такія рускія. Дэфініцыя «рускія» апынулася вельмі складанай. «Русамі», або «рускімі», раней называлі народы, якія жылі на захад ад сучаснай тэрыторыі Расіі, пры гэтым украінцы заяўляюць, што азначэнне «Русь» першапачаткова адносілася да кіеўскай дзяржавы. Можна пайсці заходнім шляхам, дзе ёсць тэрмін «палітычная нацыя». Аднак такая нацыя лакалізаваная ў адміністратыўных межах. У выніку атрымліваецца, што ў нас будзе цэлая калекцыя палітычных нацый — рускія, татары, башкіры і гэтак далей. Альтэрнатыўны варыянт — абвясціць усіх грамадзян Расійскай Федэрацыі рускімі, што, відавочна, будзе бомбай пад нацыянальную згоду. Застаецца такі крытэр «рускасці», як руская мова. Але ў такім выпадку ўсе, хто ў свеце гаворыць па-англійску, аўтаматычна атрымліваюцца англічанамі. Карацей, тут шмат незразумелага.

***— Чаму ініцыятыва стварэння закона аб расійскай нацыі выклікала рэзкую крытыку з боку кіраўнікоў нацыянальных рэспублік?***

— Перш за ўсё, такі закон абвострыць палітычную сітуацыю ў рэгіёнах, дзе Маскву і так ўспрымаюць як гіганцкі пыласос, што смокча мясцовыя рэсурсы. Аднак значна больш мясцовых чыноўнікаў палохаюць заявы некаторых сталічных палітыкаў накшталт Жырыноўскага. Для яго прыняцце закону пра рускую нацыю — пачатак працэсу ліквідацыі нацыянальных адміністратыўных суб'ектаў, якія зменяць звычайныя губерні, губернатар якіх прызначаецца цэнтрам.

***— На якім этапе зараз працэс рэалізацыі ідэі Пуціна?***

— Пачалася актыўная праца над праектам закона пад дзяжурнай назвай «Аб расійскай нацыі і кіраванні міжэтнічнымі адносінамі». Аднак пакуль яго змест нікому не зразумелы. Некаторыя ўжо асцярожна выказваюць здагадку, што закон пра «рускую нацыю» — усяго толькі чарговая фантазія Пуціна, якая ніколі не можа быць рэалізаванай, нават калі будзе прыняты нейкі дакумент. І, можа, гэта да лепшага: тэма міжнацыянальных адносін вельмі складаная і балючая.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Андрэй Холм

Асоба Холма, якога дэлегавала ў новыя міністры па праблемах жылля ва ўрадзе Берліну партыя «Левыя», выклікала буйны скандал, які можа мець наступствы для ўсяго палітычнага працэсу ў краіне.

Усё праз вельмі незвычайную біяграфію Холма, які нарадзіўся ў 1970 годзе ў Лейпцыгу ў сям'і супрацоўніка службы палітычнай бяспекі. Сямейная атмасфера яўна паўплывала на светапогляд Андрэя, які яшчэ ў дзяцінстве быў сябрам юнацкай арганізацыі «Феліск Дзяржынскі», што павінна была дапамагаць Штазі. На думку спецыялістаў, сяброўства Андрэя ў структуры пад назвай «Феліск Дзяржынскі» сведчыць, што хлопец ужо быў завербаваны. Для рэалій ГДР было звычайнай практыкай, калі дзяцей ва ўзросце 13–14 гадоў пачыналі вучыць будучай працы агентаў бяспекі.

Сам Холм кажа, што ў шэрагах арганізацыі выконваў функцыі выключна «агітатара», але яго маналогам няшмат хто верыць. Хаця няма ніякіх фактаў, што новы міністр нейкім чынам сапраўды дапамагаў пераследу палітычных апанентаў рэжыму ў ГДР, сацыял-дэмакраты і «зялёныя» (іншыя ўдзельнікі ўрадавай кааліцыі Берліна) узялі дэманстратыўную дыстанцыю ад калегі па кабінету.

Не выключана, што справа Холма можа паўплываць на перспектыву стварэння аналагічнага левага ўраду на федэральным узроўні, які можа паўстаць па выніках выбараў у верасні 2017 года. Вядома, што касцяк партыі «Левыя» — былыя камуністы з ГДР, якія не маглі не мець кантактаў са Штазі.



### Міхаіл Саакашвілі

Саакашвілі, які дасюль кіруе вядучай апазіцыйнай партыяй Грузіі «Адзіны нацыянальны рух», стаў ахвярай унутрыпартыйнай змовы. Шэраг сябраў заявілі пра магчымы выхад са структуры. Прычына — асоба лідара, які намагаецца кіраваць партыяй з Украіны.

Восеньскія выбары ў грузінскі парламент, падаецца, засведчылі, што такая формула не працуе. «Адзіны нацыянальны рух» атрымаў менш за 20 працэнтаў у парламенце, і шмат хто абвінавачвае ў паразе Саакашвілі, які заклікаў да байкоту другога тура выбараў. «Мішафобы» патрабуюць унесці ў павестку дня наступнага з'езду «Адзінага нацыянальнага руху», які павінен адбыцца 20 студзеня, пункт пра абранне партыйнага старшыні (гэта пасада з 2015-га фармальна вакантная, аднак негалосна лічыцца, што партыяй кіруе папярэдні старшыня і яе заснавальнік Міхаіл Саакашвілі).

Прыхільнікі Саакашвілі, якія, натуральна, супраць ракіроўкі правадыра, заблакіравалі ідэю выбараў новага старшыні, што ў сваю чаргу выклікала крызіс партструктуры. Цяпер абедзве фракцыі рыхтуюцца да 10 студзеня, калі адбудзецца канчатковае пасяджэнне кіраўніцтва наконт павесткі дня з'езду. Чым бы ні скончыўся канфлікт унутры «Адзінага нацыянальнага руху», відавочна, што партыя Саакашвілі ўжо не здольная быць манапалістам на грузінскім апазіцыйным полі.



### Лех Валенса

Легендарны лідар прафсаюза «Салідарнасць», былы прэзідэнт Польшчы трапіў пад каток культурнай палітыкі цяперашняга ўраду Яраслава Качыньскага. У новым варыянце падручніка гісторыі для пачатковых класаў, які распрацаваў Інстытут нацыянальнай гісторыі, у параграфе пра страйк у Гданьску ўлетку 1980-га, падчас якога і паўстала «Салідарнасць», Валенса ўвогуле не згадваецца. Замест яго прозвішча фігуруе абстрактная фраза «героі Салідарнасці».

Свой падыход да новай трактоўкі гісторыі незалежнага прафсаюзу ў Інстытуце нацыянальнай гісторыі тлумачаць тым, што Валенса быў «патаемным супрацоўнікам спецслужбаў пад прозвішчам Болек». Валенса, быццам, прызнае, што сапраўды меў кантакты з органамі, аднак тое адбывалася задоўга да падзей у Гданьску і на яго ўчынкі падчас страйку не ўплывала.

Каментуючы інавацыі ў падручніках, Валенса заклікаў паліць кніжкі, паколькі іх змест — «вераломная хлусня». Між тым, узнікае інтрыга — наколькі далёка афіцыйныя гісторыкі будуць перапісваць гісторыю «Салідарнасці». Раней у шэрагу публікацый у кансерватыўнай прэсе асцярожна прасоўвалася тэма, што сапраўднымі героямі падзей у Гданьску ў 1980-м былі браты Лех і Яраслаў Качыньскія, якія, нібыта, былі актывістамі антыкамуністычнага падполля. Застаецца пачакаць, ці трапіць гэта версія на старонкі новых польскіх падручнікаў гісторыі.

# Гісторыя пра Міцьку Белага



Сяргей ПУЛЬША

**У дыскусіі пра Гіля-Радзіёнава на старонках «Новага Часу» апанент Змітра Захарэвіча Сямён Бародзіч спасылаўся, у тым ліку, і на гісторыка-дакументальныя хронікі «Памяць». Але з «Памяццю», як высвятляецца, не ўсё ў парадку. Да нас звярнуўся сталы чытач, гісторык і краязнаўца Алесь Самец, які распавёў цікавую гісторыю і пра «Памяць», і пра гераізацыю партызанкі ў цэлым.**

## Герой-партызан, так?

«Недзе да 2006 года ў мяне было ўяўленне пра Дзмітрыя Анісімавіча Дзенісенку як пра чалавека, які сваімі гераічнымі ўчынкамі праславіў усю Карэліччыну, Гродзеншчыну і Беларусь. Нават Янка Брыль пра гэтага чалавека пісаў у сваёй аповесці «Нёманскія казакі». Шмат згадваецца пра яго і ў кнізе «Памяць» Карэліцкага раёна.



**Дзмітрый Дзенісенка (фота з кнігі «Памяць»)**

Міф пра Дзенісенку ў мяне трымаўся да публікацыі ў «Народнай волі» ў 2006 годзе. Напісалі той артыкул Міхась Ганаровіч і Ніла Сакалова — мясцовыя жыхары з вёскі Тарасавічы Карэліцкага раёна. Асабліва там нічога пра славутага партызана не было, але паказвалася, што ён, Дзенісенка, забіў іншага камандзіра партызанскага атраду — Дзмітрыя Семянцова», — распавядае Алесь Самец.

Спадара Алеся вельмі зацікавілі такія неверагодныя звесткі, і ён вырашыў іх спраўдзіць. Сустракаўся з мясцовымі жыхарамі, распытваў тых сведак, якія яшчэ жывыя, сустрэўся з людзьмі, якія напісалі гэты артыкул у газету, з'ездзіў у Навагрудскі краязнаўчы музей, дзе Дзенісенка праходзіць як герой. Яму нават прысвечаны персанальны стэнд... Высновы былі несуцяшальныя. Сапраўды, гераічны партызан — не герой, а забойца.

## На самай справе

Партызанскія атрады пачалі ўзнікаць у Карэліцкім раёне вясной 1942 года. Адна з груп была арганізаваная Дзенісенкам, а другая — Семянцовым. Абодва Дзмітрыі, значыць, абодва — «Міцькі». Семянцова называлі «Белым Міцькам», а Дзенісенку — «Міцькам-казаком». «Белы Міцька» быў афіцэрам-акружэнцам, які застаўся ў Карэліцкім раёне. Ён арганізаваў з мясцовых хлопцаў групу, якая потым перарасла ў атрад. Тое самае рабіў і Дзенісенка. І потым паўстала пытанне пра аб'яднанне гэтых невялікіх атрадаў у адзін. І, канешне ж, паўстала пытанне, хто будзе камандзірам гэтага аб'яднанага атраду.

Лёс сутыкнуў абодвух камандзіраў у снежні 1942 года ўначы ў вёсцы Вялікая Слабада ў хаце грамадзяніна Ламана. Семянцоў вячэраў, калі прыйшоў Дзенісенка са сваімі байцамі. Што паміж імі адбылося — невядома, але Дзенісенка Семянцова застрэліў.

Гаспадар хаты пабачыў, што ўжо нежывога Семянцова выцягваюць з хаты. Ён паспрабаваў умяшацца, каб Семянцова хаця б пахавалі. Партызаны яму сказалі, што пахаваюць Семянцова самі. Цела забітага партызанскага камандзіра пагрузілі на павозку і звезлі. Гэта быў апошні раз, калі Ламан бачыў Семянцова.

Непадалёк, кіламетры за тры, знаходзіўся Пратасаў Хутар — ён так называўся, бо там жыў спадар Пратасевіч. На раніцу наступнага дня дачка Пратасевіча Валянціна выйшла з хаты, і пабачыла, што пры дарозе ляжыць чалавек. Яна падышла і пазнала ў ім «Белага Міцьку». Ён быў распрануты да бялізны. З яго знялі ўсё — вопратку, боты... Так і кінулі, не пахаваўшы.

Яна паклікала мужчын з вёскі, і Семянцова там жа, дзе знайшлі — пры дарозе, — пахавалі.

Потым Валянціна Пратасевіч даглядала гэтую магілку. Даглядала магілу і жыхарка Тарасавічаў Ніна Сіўко, зараз Пархімовіч. Потым там праводзілі меліярацыю, пашыралі дарогу, і гэтую магілу знеслі. Але мясцовыя памятаюць, дзе быў пахаваны Семянцоў. Плюс-мінус пяць метраў.

## Злачынства без пакарання

У 1977 годзе сястра загінулага Дзмітрыя Семянцова Ніна прыехала ажно з Пермскай вобласці, каб даведацца пра лёс родзіча. Бо ўсё, што яны пра яго ведалі, — афіцыйная ваенная папера: знік без вестак на тэрыторыі Беларусі. Яна высветліла, што гэта было ў Карэліцкім раёне, і даведалася, што пахаваны ён нібыта ля вёскі Вялікая Слабада. Сястра паехала ў тую вёску, сустрэлася з мясцовымі жыхарамі, якія і распавялі ёй гэтую гісторыю. Што яго забілі не паліцаі, не немцы, а другі камандзір партызанскага атраду.



ПАЛЯВОДСТВА

НАШ РАБОЧЫ ПЛАН УБОРКІ ЗБОЖЖА

Д. А. ДЗЕНІСЕНКА,
старшыня калгаса імя Жданава
Навагрудскага раёна

Вось ужо некалькі год запар калгас імя Жданава вырошчвае добрыя ўраджаі азімага збожжа, ячменю, яравой пшаніцы, аўса. У 1957 і 1958 гадах сабрана ў сярэднім па 15 цэнтнераў збожжа з гектара. Мы сталі добра апрацоўваць глебу і запраўляць яе ўгнаеннямі, сеем вузкарадковым спосабам і старанна даглядаем пасевы, своечасова, без страт убіраем ураджай.

На вопыце мінулых год калгаснікі пераканаліся, што самы нязначны недагляд у часе ўборачных работ можа прывесці да страты значнай часткі ўраджаю. З прычыны адсутнасці крытых такоў гінулі дзесяткі цэнтнераў збожжа. Вось чаму цяпер мы старанна рыхтуемся да ўборкі, прадумваю-

прадукцыі. Мы далі слова сабраць збожжа не менш 18 цэнтнераў з гектара. Меркаванні на ўраджай даюць падставу думаць, што гэтае абавязацельства будзе выканана.

Нам трэба будзе ўбраць 1.000 гектараў збожжа. Добра адрамантаваны камбайны, трактарныя жняяркі, складаныя малатарні, падрыхтаваны цяглавая сіла, транспарт, упарадкаваны крытыя такі і збожжасклады. Людзі ведаюць свае абавязкі. Складзен рабочы план уборкі, яго зацвердзіла праўленне калгаса. На брыгадных сходах калгаснікі ўхвалілі намечаныя мерапрыемствы. Прыводзім некаторыя асноўныя разлікі.

| Назва работ | ... работ | Час выканання | | Штодня патрабуецца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | ...чых дзён | ...дныя ...рныя | сілы | | машын |

**Артыкул Д.Дзенісенкі ў часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі», ліпень 1959 года**



**Дзенісенка — старшыня калгасу імя Жданава, разам са старшынёй выканкаму Любчанскага пасялковага савета В. Салабуцíным аглядаюць азімае жыта. Фота А. Карніцкага, часопіс «Сельская гаспадарка Беларусі», 1959 год**

Ніна Семянцова звярнулася ў Генеральную пракуратуру Беларусі, справа была перададзена ў ваенную пракуратуру БССР. Была праведзеная праверка, дапыталі самога Дзенісенку, які на той час працаваў старшынёй Любчанскага пасялковага савета Навагрудскага раёна. І, што дзіўна, Дзенісенка гэта забойства не адмаўляў!

«Былы камандзір 1-й Беларускай партызанскай кавалерыйскай брыгады Дзенісенка Дзмітрый Анісімавіч паказаў, што Семянцоў быў асабіста ім расстраляны ў доме Ламана ў снежні 1942 года. Ён распавёў, што ў той перыяд часу, калі Семянцоў узначальваў адзін з партызанскіх атрадаў у Карэліцкім раёне яму — Дзенісенку — партызаны Кеда і Васільеў паведамілі, што як Семянцоў, так і яго людзі рабуюць мясцовае насельніцтва. (...) Пра гэты факт ён праз свайго начальніка штаба Факішава (у адказе пракуратуры памылка, насамрэч прозвішча начштаба Фанышаў) — загінуў у гады вайны — паведаміў камандаванню Баранавіцкага партызанскага злучэння, і адтуль прыйшоў загад расстраляць Семянцова як марадзёра», — гэта напісана ў пастанове аб адмове аб узбуджэнні крымінальнай справы ваеннай пракуратуры Чырвоназнамённай беларускай ваеннай акругі.

Але ў справе ёсць два цікавыя моманты. Першы: ані Кеда, ані Васільеў, дапытаныя пракуратурай, факты марадзёрства з боку Семянцова не пацвердзілі. Следства не абмежавалася толькі допытам былых партызанаў, але і правяло вялікую працу па апытанні жыхароў Карэліччыны. І мясцовыя жыхары не толькі абвергли факты рабаўніцтва з боку Семянцова і яго партызан, але і сцвярджалі, што «Семянцоў адным з першых у маі 1942 года на тэрыторыі Карэліцкага раёна арганізаваў партызанскі атрад. З'яўляючыся яго камандзірам, ніякіх дзеянняў, скіраваных на шкоду партызанскаму руху, не здзяйсняў, і характарызавалі яго як савецкага патрыёта, пісьменнага, аўтарытэтнага і баявога партызанскага камандзіра».

І другі момант: Дзенісенка казаў, што расстраляў Семянцова па загадзе Баранавіцкага партызанскага злучэння. Але Семянцоў быў забіты Дзенісенкам у снежні 1942 года, а Баранавіцкае партызанскае злучэнне ўзнікла толькі ў красавіку 1943 года. Як мог Дзенісенка атрымаць такі загад за паўгода да ўзнікнення злучэння?

Вайсковая пракуратура прызнала: «Дзеянні былога камандзіра 1-й Беларускай партызанскай кавалерыйскай брыгады Дзенісенка Д.А., які беспадстаўна расстраляў Семянцова за марадзёрства, вар-



**Камандзіры савецкіх партызанскіх атрадаў за прынняццем рашэння аб стварэнні партызанскага краю.** Фота tass.ru

# і Міцьку-казака



**Партызанская конніца пераходзіць праз раку Случ.** Фота waralbum.ru



**Сядзібны Дом у Варончы, спалены партызанамі. Гравюра з кнігі «Старинные усадьбы Беларуси»**

та прызнаць неправамернымі і кваліфікаваць як ваеннае злачынства па арт. 180 КК БССР у рэдакцыі 1928 года». Але крымінальную справу ў дачыненні да яго спынілі: «У сапраўдны час Дзенісенка за гэтае злачынства ў адпаведнасці з арт. 2 і 5 п. «б» Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 27 сакавіка 1953 г. «Аб амністыі» не можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці».

Падаецца, юрыдычна ўсё правільна. Але Алесь Самец кажа, што па такіх абвінавачваннях іншых людзей судзілі і праз 40, і праз 50 гадоў.

Адзінае, чаго дамогся следчы, — указаць у пастанове: «Былога камандзіра партызанскага атрада Семянцова Дзмітрыя Іванавіча, як не здзейсніўшага злачынства, лічыць пасмяротна рэабілітаваным, пра што паведаміць заяўніцы — Семянцовай Н.І.»

## Бі сваіх?

«Калі я пачаў капацца, пачаў чытаць больш пра гэта, я сутыкнуўся з цікавай кнігай Уладзіміра Калесніка «Доўг памяці». І Каленснік піша, што Дзенісенка забіў не толькі Семянцова», — распавядае Алесь Самец.

«Я ведаў ужо пра новую таямнічую трагедыю, якая разыгралася тут, ля Пратасава Хутара, у пачатку зімы. Загінуў «Белы Міцька». Труп яго Валя знайшла на падворку. Стрэлаў не чула. Нехта яго нежывога сюды прывёз. Хто? Заставалася загадкай. (...) Людзі пачалі гадаць-меркаваць па прынцыпу, каму «Белы Міцька» замінаў, і вырашылі, што Дзенісенку, «Міцьку-казаку». «Белы Міцька» быў інтэлігентным масквічом, прыгожым, абаяльным афіцэрам (...) І да яго ішлі мясцовыя дзяцюкі. Да «Міцькі-казака» так не ішлі, бо яго менш ведалі, не так давяралі, нават пабойваліся: жорсткі. І вось «Белы Міцька» загінуў. Смерць гэтую стваральнікі міфаў падвялі пад біблейскую прытчу Каіна і Авеля. Каін забіў брата за тое, што таго, сціплага, больш любіў Бог. (...) «Міцька-казак» быў бязлітасным, мог застрэліць вартавога, не будзячы, калі той заснуў на пасту. Так загінуў малодшы брат камандзіра ўзвода Максіма Шавейкі», — піша Калеснік.

Гэта факт другога забойства, здзейсненага Дзенісенкам.

Яшчэ адзін выпадак Алесю Самцу расказаў былы баец атрада Дзенісенкі, Аляксандр Раковіч, які зараз жыве на Карэліччыне і піша мемуары. Напачатку 1942 года там арганізоўвалася яшчэ адна партызанская група — Кліма Міронава, Кліма, таксама афіцэра Чырвонай Арміі і акружэнца. Пачынаў арганізацыю любы атрад стандартна — збіраў пакінутую пасля баёў зброю, якой было багата ў мясцовых лясах. Аднойчы байцы Кліма і Дзенісенкі даведаліся, што ў рэчцы затоплены кулямёт. Хлопцы гэты кулямёт знайшлі, узнікла спрэчка, каму ён будзе належаць. І Дзенісенка застрэліў Кліма, каб кулямёт дастаўся яму.

Такім чынам, Дзенісенка забіў як мінімум трох партызанаў. Двое з іх былі камандзірамі атрадаў.

Што гэта? Бязмерная прага ўлады? Спадзяванне, што «вайна ўсё спіша»? Альбо прынцып «бі сваіх, каб чужыя баяліся»? Але ў тым і справа, што «чужыя», то бок акупанты, не вельмі і баяліся «казацкага атраду» Дзенісенкі. Прынамсі, мясцовыя жыхары не памятаюць нейкіх буйных партызанскіх аперацый у гэтай мясцовасці. Па дакументах кнігі «Памяць» таксама не скажаш, што атрад Дзенісенкі ўдзельнічаў у нейкіх «моцных» баях з акупантамі.

Напрыклад, маштабны бой ля вёскі Лядкі, які, згодна кнізе «Памяць» (па данясенні Дзенісенкі сакратару падпольнага абкама КП(б)Б В. Чарнышову, пасля якога Дзенісенка нават папрасіў дапамогі боепрыпасамі), доўжыўся зранку да вечара 23 кастрычніка 1943 года. Паводле данясення Дзенісенкі, бой працягваўся дзесяць з паловай гадзін, з 8 раніцы да 18.30 вечара, і «гітлераўцы страцілі забітымі 8 чалавек». Восем забітых акупантаў за 10 гадзін бою?..

«Гэтыя сутычкі не каштавалі тых страт, якія неслі людзі ў іх выніку», — лічыць Самец. Пасля тых баёў фашысты спалілі вёскі Новае Сяло і Лядкі. Толькі ў Лядках было знішчана 60 сем'яў — больш за 100 чалавек.

## Наколькі кароткая «Памяць»?

Такіх гісторый на Карэліччыне было багата, адзначае спадар Самец. Партызаны «адзначаліся» не толькі вайной з немцамі. Напрыклад, У вёсцы Варонча быў старадаўні сядзібны дом, закладзены ў 1787 годзе, — помнік архітэктуры нават ужо ў ваенныя часы. Гэтая сядзіба нават апісваецца ў паэме Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

У часы вайны там жыла «польская» настаўніца Ізабэла Аляксандра Чарноцкая, — паважаны на вёсцы чалавек, нікога не чапала, спакойна вучыла дзяцей. У 1943 годзе са штабу партызанскага руху пад кіраўніцтвам Панамарэнкі прыйшоў загад партызанам — адзначыць Першамай, зрабіць акцыі да гэтай даты. Так званы «атрад Золатава», камандзірам якога быў, згодна з кнігай «Памяць», Іван Чумачэнка, нічога лепшага не прыдумаў, каб забіць гэтую настаўніцу.

Прыйшлі да яе ўначы з 30 красавіка на 1 мая, забілі чатырох чалавек: 65-гадовую маці настаўніцы, саму настаўніцу, яе 25-гадовага сына. Не пашкадавалі і цяжарную жонку сына. А пасля будынак разам з целамі загінулых падпалілі. Мясцовыя жыхары ўпотайкі ад партызанаў (не немцаў!) выцягнулі з агню парэшткі забітых і пахавалі іх.

Дарэчы, гісторыя партызанскага атраду Золатава таксама даволі цікавая. Арганізаваў атрад сапраўды камандзір Чырвонай Арміі па прозвішчу Золатаў, але ён загінуў недзе напачатку 1942 года. У чэрвені 1942 года атрад узначаліў Мікалай Зарудneў, які ўзяў сабе псеўданім у гонар загінулага камандзіра — Золатаў. У верасні 1942 года гэты «атрад Золатава» вёў бой з фашыстамі ля вёскі Сервач. І ў гэтым баі Зарудneў загінуў у выніку... стрэла ў патыліцу! Як такое раненне можна атрымаць у баі? Хіба што ззаду ад «сваіх». На замену Зарудневу прыйшоў Чумачэнка.

Зразумела, усяго гэтага мы не знойдзем у кнізе «Памяць». А, здаецца, дарма. Краіна павінна ведаць нармальную гісторыю, лічыць Алесь Самец.

## Героі і злачынцы

Дзенісенка пасля вайны працаваў наместнікам старшыні Мірскага райвыканкаму, пасля трапіў у Любчу, кіраваў калгасам імя Жданава Навагрудскага раёна, быў старшынёй Любчанскага пасялковага савета, — да пенсіі. І памёр недзе ў 1998 годзе.

А пра Семянцова ў кнізе «Памяць» напісана толькі ў пераліку падраздзяленняў, якія ствараліся на Карэліччыне. І згадана, што ён загінуў у канцы 1942 года. А як загінуў і чаму — не напісана. І ні слова ані пра злачынства ў Варончы, ані пра расследаванне вайсковай пракуратуры.

Алесь Самец ужо некалькі гадоў намагаецца, каб на прыкладным месцы пахавання Дзмітрыя Семянцова мясцовыя ўлады паставілі помнік. І нават хай не пішуць, што ён быў забіты іншым партызанам, а проста «трагічна загінуў». Але нават паставіць камень з памятнай шыльдай уладам увесь час нешта перашкаджае...

«Для чаго трэба ўсё гэта ведаць? Каб гэта не паўтарылася. Наш свет сёння вельмі хісткі, пагляздзіце, што ва Украіне робіцца», — кажа Алесь Самец. Так, можа, гэта прыкрыя факты, непрыемныя. Але без ведання сапраўднай гісторыі мы будзем спараджаць міфы пра партызанку, на якіх далёка не з'едзеш. І апраўданні «час і абставіны былі такія» могуць стаць падставай для падобных жа злачынстваў.

Сапраўды, калі ўжо серыя называецца «Памяць», дык памятаць трэба пра ўсё. Бо той, хто не памятае свайго мінулага, асуджаны на тое, каб перажыць яго зноў, як казаў амерыканскі філосаф і пісьменнік Джордж Сантаяна. І калі мы свядома выключаем з памяці не самыя прыемныя для нас старонкі гісторыі, дык даем шанец на паўтарэнне менавіта гэтых жахлівых старонак.



**Партызаны выбіваюць з вёскі нямецкі карны атрад.** Фота waralbum.ru



**Партызанскі атрад імя Шчорса Мінскага злучэння на «рэйкавай вайне».** Фота waralbum.ru

# «Океан Ельзи» як нацыянальная тэрапія

Валярына КУСТАВА

**Тры гадзіны высокапрафесійнага музычнага рок-задавальнення ад харызматычнага Святаслава Вакарчука. Увесь суботні вечар 10 снежня «Мінск-Арэну» хістала ад эмоцый, а над залай луналі жоўта-блакітныя сцягі.**



**Яго песні, нібыта створаныя з улікам прынцыпу «залатога сячэння», залатога сячэння на сэрцы сучаснага чалавека, чулага да чужога гора, да гора бліжняга, неабыякавага да любові і свабоды**

Святаслаў Вакарчук тройчы выходзіў на біс. «Нам самім спадабаўся канцэрт, мы запомнім яго надоўга, а можа нават на ўсё жыццё», — прызнаўся саліст О.Е.

## Магія

Святаслава Вакарчука можна параўнаць з вітрувіянскім чалавекам Леанадра да Вінчы, калі казаць пра кананічнасць яго рухаў і энергетычны ўзаемаабмен з публікай. Найчасцей яго жэсты і рукі выглядаюць акурат як на карціне — то раскінутыя, як крылы, альбо пастава, як укрыжаваная, з раскінутымі рукамі і нагамі — праз якую, ці не фізічна адчуваецца, курсіруе энергія.

Магія і ў тым, што ў яго атрымліваецца звярнуцца да кожнага — адрасна, індывідуальна. І кожны тужыць па сваім страчаным і адраджае запаветную веру — у каханне і свабоду, слухаючы «Не твая війна», «Друг», «Стіна» альбо «Зелені очі», «Мить», «Без бою». І ўсе свае чаканыя хіты прагучалі гэты разам і ў Мінску на радасць сталічнай публіцы.

Невыпадкова яшчэ перад канцэртам саліст О.Е. заўважыў, адказваючы на пытанні журналістаў, што для яго перадусім — гэта энергетычная гармонія. А шчырасць — гэта і ёсць праўда, якая, верыць артыст, — адна, толькі часам мы глядзім на яе пад рознымі ракурсамі.

Яго песні, нібыта створаныя з улікам прынцыпу «залатога сячэння», залатога сячэння на сэрцы сучаснага чалавека, чулага да чужога гора, да гора бліжняга, неабыякавага да любові і свабоды. Вакарчук быў бы ідэальным выканаўцам самых балючых вершаў Купалы, каб нарадзіўся беларусам. Бо Вакарчук спявае болем.

## Нацыянальная тэрапія

Кульмінацыя канцэрту О.Е. было выкананне песні «Міть» («Імгненне»), якую Вакарчук прысвяціў забітаму ў Кіеве беларускаму журналісту Паўлу Шарамету.

«У мяне ёсць знаёмыя ў Беларусі, яны добрыя людзі, здараецца, мы бавім час разам. У мяне быў адзін такі брат па духу, сапраўдны сын беларускай зямлі, якога паважаюць і любяць ва Украіне, — Паша Шарамет, якому я хачу прысвяціць гэтую песню. Людміла Станіславаўна, мы ўсе з вамі, і дзякуй вам за сына».

Вакарчук плакаў, ён адвярнуўся ад залі на некалькі імгненняў, выціраючы слёзы. Пасля выканання зала ўстала на знак памяці. Некаторыя плакалі.

Будзем шчырымі, беларусам бракуе такога маштабу падзей і асобаў, высокіх ідэйных прафесіяналаў, на якіх бы трымалася нацыянальная ідэя — і часткова таму многія з нас так упарта трымаюцца за тых самых украінскіх выканаўцаў. У прыватнасці, за Славу Вакарчука. Бо і ў нас так магло б быць.

І радуемся за яго часам ці не больш, чым ад сваіх. І атрымліваем — 200-адсоткавую перазагрузкі ад канцэпту ў выніку. Бо няма ніякіх «але». Ён трымае публіку, голас не зрываецца. Яго любіш, а не шкадуеш. За такім хочацца ісці. Мы чакаем яго песень, і чакаем яго гастроляў.

Гэта свайго роду нацыянальная тэрапія. Мы сублімуем не пройдзеную сваю вайну і завершаны гештальт плошчы.

**Фотаздымкі: Юля Мацкевіч і Валярына Кустава**






# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**

**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда ці **атрымаць бясплатна** (8029) 666 45 29 Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек, квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1227

Падпісана да друку 16.12.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.